ГОД VIII ТРАВЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ № 60
1954 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ



БАРКУЛАБАЎСКАЯ ЦУДАТВОРНАЯ ІКОНА МАЦІ БОЖАЕ.

**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VIII. N° 60. Mai-Juin 1954

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI<sup>e</sup>

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1954 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44 R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI^e^.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:

**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981. 4, de Junio, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:

**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:

**M. l'Abbé Czerniaŭski François, Michelse 202. LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

**Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover. in Goslar,**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «**Holas Dušy**» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2500 фр. — 2 ф. і 10 шыл.

**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Замок не ад злодзея, а ад добрага чалавека.
За правінку чэшуць сьпінку.
За сіратою Бог з калітою.
За стараньне Бог (дбайліваму Бог памагае).
Заўтрае аднаму Богу ведама.
За цярпеньне дасьць Бог збавеньне.
За чужым не ганіся, на сваё азірніся.
З Богам кепскія жарты. З Богам жартаваць нельга.
З Богам кантрактаў не рабіць.
З Богам таргавацца ня будзеш.
З брахні ня мруць, да ім болей веры ня ймуць.
З бяды да роскашы то хутка прывыкнуць, але з роскашы да бяды то не.
З вялікай любосьці ня раз кій паломіць косьці. (Асьцярога дзеўкам перад хлапцамі з дрэннымі налогамі, п'яніцамі).
Згубіш праўду і сам прападзеш.
З добрага ўчынку і анёлы цешацца.
З дурнем ні знайсьці ні згубіць.

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

**апошнім часам прыслалі** (сумы паданы ў францускіх франках): Бількевіч М. 200, Бобак Л. 350, Бондароўскі С. 3.000, Быковіч Я. 500, Верабей К. 350, Высоцкі Я. 700, Гл-кі Я. 350, Дан-іч Б. 700, Дан-чык Э. 1.000, Дунец У. (група Клевэлянд) 4.829, Ем-чык С. 400, Ка-ак Я. 500, Каскі А. 500, Каранеўскі М. 1.860, Ка-лян У. 500, Кобрын В. 1.950, Лы-ха М. 300, Малаш А. 1.000, Пу-скі З. 550, Скабей М. 850, а. Т-іч У. 350, а. Чарняўскі Ф. (група Бэльгія) 3.000, Чарнэцкі Я. 850, Юр-к Р. 500, Яцкевіч Д. (група Аўстралія) 2.610.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VIII. ТРАВЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ 1954 № 60.

# Дух часу

Як доўга жывуць людзі на зямлі, так доўга наракаюць на сваю долю. Такая ўжо натура чалавека, што ніколі не здавальняецца тым, што мае, бо-ж чалавек прызначаны да бесканечнага шчасьця, якога тут на зямлі немагчыма асягнуць.

І сёньня, не зважаючы на аграмадныя асягненьні тэхнікі, на аграмадныя магчымасьці аблягчыць жыцьцё, людзі наракаюць і наракаюць, страшэнна, можа больш чым калі. Варта прыглянуцца ўважней да прычынаў сучаснага нараканьня.

Ня ўсюды і не ў аднолькавай ступені сёньня чуваць нараканьні, а нават тыя, якія ў сапраўднасьці найбольш цярпяць і якія перажываюць неімаверны зьдзек, ня маюць нават магчымасьці аблягчыць хоць тым сваё цярпеньне, каб выказаць свой боль. Да гатага ўсяго ў вольным сьвеце нямала ёсьць варожасьці між народамі і паасобнымі групамі, якая палохае людзей няпэўным заўтрашнім днём; шмат дзе пануе страшэнная эксплёатацыя і зьдзек над слабейшымі, вузкі эгаізм вядзе да засьляпленьня і жарстокасьці ў гаспадарчым жыцьці і атручвае нават тыя хвіліны, якія маглі-б прынесьці радасьць чалавеку.

Гэтыя зьявішчы ня ёсьць вытварам апошніх стагодзьдзяў. Не. Яны былі ведамыя ад вякоў, бо-ж у натуры чалавека поруч з імкненьнем да дабра і дасканаласьці дрэмлюць так-жа розныя дрэнныя нахілы і адзываюцца нізкія гоны, якія ў мінулым няраз даводзілі народы і дзяржавы да страшэнных закалотаў. Але калісь чалавек меў меншую сілу над прыродаю, дык абсяг ягонага ліхога дзеяньня быў меншы. Цяпер-жа азброіўшыся асягненьнямі навукі, чалавек змог вынішчаць цэлыя народы і пакрываць моўчанкаю іхныя масавыя магілы, і... збольшыў нараканьні на ліхую долю.

Калісь у сівай мінуўшчыне звычаі і правы былі вельмі жарстокія, але такімі-ж былі і ўмовы жыцьця. Ад калі на дзяржаўнае жыцьцё займела ўплыў хрысціянства, звычаі і правы ўсцяж лагаднелі і адносіны між людзьмі зьмяняліся на лепшыя. Значыць сучасны стан гнёбленьня і жудаснае эксплёатацыі ў краінах дзе пануе таталітарызм, ёсьць паважным крокам назад і ягонае рэха адчуваецца ў іншых краінах.

Гэты крок ня стаўся неспадзевана. Ён быў падрыхтаваны доўгагадоваю прапагандаю розных фальшывых і ў груньце бязбожных тэорыяў, што за ўзор для чалавека ставілі неразумных жывёлаў, а за ўзор для ўзаемадачыненьняў — барацьбу за існаваньне, якую назвалі барацьбою клясаў і якая навучае: «жары іншых, каб цябе ня зжэрлі».

Такі драпежны сьветагляд прышчэпліваўся не адразу. Для яго ўспрыняцьця ад стагодзьдзяў падрыхтоўваўся адпаведны грунт праз прапаганду абыякавасьці да рэлігіі. У выніку дзейнасьці рацыяналістаў і вольнадумцаў у кіраўнічых кругох запанавалі такія адносіны, што людзі зусім не зьвяртаюць увагі на грэх. Аж страшна падумаць, як шмат людзей сёньня так пляную сваё жыцьцё і паводзіны, быццам граху няма на сьвеце, быццам Божыя і царкоўныя прыказаньні запісаны толькі дзесь у кніжках, але мала ў каго яны запісаны ў сэрцы. Да чаго можа давесьці далейшае пашырэньне такога сьветагляду, калі яму ня будзем супрадзейнічаць, сьведчаць цярпеньні нашых блізкіх і родных за зялезнаю заслонаю.

Ведаючы сілу розных гонаў і дрэнных нахілаў, як яны могуць апанаваць сэрцы нават веруючых людзей, ці-ж можна дзівіцца, што дрэнныя нахілы могуць зусім атруціць сэрцы пазбаўленыя рэлігіі пад уплывам руйнацкае прапаганды і дрэннага прыкладу!? Ад вякоў людзі ведалі сваю слабасьць і вялі барацьбу з сваімі дрэннымі нахіламі, каб ня стацца іхнымі нявольнікамі, але вось ад XVIII ст. на дапамогу дрэнным нахілам прыйшоў бязбожны рух т. зв. рацыяналістаў, які абвесьціў, што гэта нягуманна апаноўваць свае нізкія гоны — трэба ім даць волю. Хутка той рух прыняў арганізаваную форму вольнадумства. У тайных і яўных арганізацыях ён хутка так пашырыўся ў кіраўнічых кругох, што пачаў надаваць агульны тон грамадзкай думцы ў Заходняй Эўропе і пачаў плянаваць апанаваньне ўсяго сьвету. У 1880 г. быў заснаваны ў Бруксэлі «Сусьветны саюз вольнадумцаў, які вызначаўся сваім ваяўнічым бязбожжам. Як толькі ў 1925 г. заснаваўся ў Маскве «Саюз ваюючых бязбожнікаў», дык адразу стаўся сябрам «Сусьветнага саюзу вольнадумцаў» і нават захапіў там кіруючыя становішчы. Такі стан рэчаў быў вельмі кампрамітуючым

для заходняэўрапэйскіх бязбожнікаў і таму ў 1935 г. на зьезьдзе ў Вісбадэне былі створаны два бязбожных інтэрнацыяналы: бальшавіцкі «Пралетарскі саюз вольнадумцаў» з аседкам ў Бэрліне і другі заходняэўрапэйскі «Саюз вольнадумцаў» з аседкам у Бруксэлі. Але ў наступным годзе абодва бязбожных інтэрнацыяналы зрабілі зьезд у Празе і па загаду Комінтэрна аб'ядналіся ў адзін «Сусьветны саюз вольнадумцаў», які ў 1938 г. меў свае сэкцыі ўва ўсіх краінах сьвету.

Праца вольнадумцаў у першую чаргу палягае на руйнаваньні, яна мае на мэцэ зьнішчыць у чалавеку імкненьне ўвысь да апошняе мэты жыцьця, да Сатварыцяля, і таму яе праводзіць шмат лягчэй як творчую працу. Заўсёды з гары скочвацца лягчэй, як уздымацца ўвысь. А да таго за час свайго існаваньня вольнадумцы маюць ужо не абы якую практыку. У Заходняй Эўропе яны перадусім стараюцца пашыраць абыякавасьць да рэлігійных практыкаў. Калі гэта асягаецца, рэлігійнае жыцьцё коціцца ўніз быццам незагамаваны воз з крутое гары. Як пасьля чыгуначнае катастрофы, калекі і раненыя запаўняюць больніцы стогнамі і енкамі, так і ахвяры руйнацкае працы вольнадумцаў запаўняюць сьвет нараканьнямі.

Руіны доўга не астаюцца на паверхні зямлі. Або іх прыбірае дбайлівая рука гаспадара і нанова пачынае будову зруйнаванае рэчы, або яны зарастаюць пустазельлем, ці заносяцца пяском. Таксама і руіны рэлігійных пераканаеньняў ня могуць астаўляць людзкога сэрца незапоўненым; або чалавек заўважыўшы сваю страшэнную страту, стараецца направіць сваю памылку, або ўспрыймае на мейсца рэлігіі розныя фальшывыя ідэалёгіі, якія вядуць да вечнае загубы.

Праца вольнадумцаў і сёньня ня спыняецца. Час які пражываем характэрызуецца вельмі шырока і глыбока распаўсюджанай абыякавасьцю ў некаторых грамадзкіх кругох. Не зважаючы на значнае ўзмацненьне рэлігійнага жыцьця ў некаторых краінах, усё-ж яшчэ сёньня духам часу астаецца абыякавасьць. Абыякава глядзіць сьвет на прасьледаваньні мільёнаў вернікаў за зялезнаю заслонаю, абыякава ўспрыймае весткі аб зьнішчэньні каталіцкае ерархіі ў падбальшавіцкіх краінах і абыякава пераходзяць да парадку дня над весткамі, што ў таталітарных краінах мільёны людзей гіне ў прымусовых лягэрах працы.

Трэба з сумам сьцьвердзіць, што шматлікія вернікі маюць вельмі прыгодны грунт для пашырэньня абыякавасьці — гэтым грунтам ёсьць летнасьць. У гарачай і халоднай вадзе шкодныя і заразныя бактэрыі разводзіцца ня могуць, а ў летняй вадзе яны аж кішаць. Падобна і ў летняга верніка множацца нязьлічаныя спакусы і грахоўныя ўпадкі, спалучаныя з страшэнным згоршаньнем. Таму і асуджае Збавіцель летных людзей горш, як выразных бязбожнікаў: «Дзеля таго, што ты летні, а ня сьцюдзённы, ані гарачы, Я выблюю цябе з вуснаў Маіх» (Апокал. III, 16).

Пасьля вялікае француcкае рэвалюцыі былі зьявіліся багасловы, што насупраць навукі Каталіцкае Царквы і Сьвятога Пісаньня пробавалі абараняць абыякавасьць, тады папа Рыгор XVI у 1832 г. іх востра асудзіў у спэцыяльнай энцыкліцы. Варта аб гэтым сёньня прыпомніць.

Ведаючы нябесьпеку, якая пагражае з боку абыякавасьці трэба ёй даць належны адпор. Не бязбожнікі, але шчырыя вернікі павінны фармаваць дух часу. Не бязмэтнае мадзеньне, але гарачая вера павінны кіраваць людзкім жыцьцём. Тады галасы нараканьня значна прыціхнуць. Хрыстос падчас свайго туземнага жыцьця казаў: «Агонь прыйшоў Я кінуць на зямлю, і як хацеў-бы, каб ён ужо запалымнеў» (Лук. XII, 49). І той сьвяты агонь павінен зазьзяць ува ўсёй нашай дзейнасьці; полымя сьвятое веры павінна асьвячаць нашы адносіны да Сатварыцеля, а жар сьвятое любові павінен аграваць нашы адносіны да бліжніх. Тады ня будзе мейсца ў нашым сэрцы на падступныя руйнацкія нашэпты тайных і яўных ворагаў нашага збаўленьня і тады бязумоўна дух часу зьменіць сваё змрочнае абліччa на больш сьветлае і радаснае.

**а. Леў**

# Хрыстос—крыніца ўсякага дабра

Хрыстос — гэта ўцелаўлёнае адвечнае Божае Слова, аб Якім эвангэліст Іван піша: «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога і Богам было Слова. Яно было на пачатку ў Бога. Усё праз Яго сталася і без Яго нічога ня сталася з таго, што сталася... І Слова сталася целам і прабывала між намі... поўнае ласкі і праўды» (Ів. 1, 1-3, 14).

Філязофская мудрасьць кажа: «Уласьцівасьць дабра ў тым, што яно распаўсюджваецца і перадаецца другім». Праўда гэтая ўсеагульная і яе можна назіраць на кожным кроку і ў прыродзе, і між людзей. Кінеш добрае пшанічнае зерне ў ральлю, а адтуль вырасьце буйны і важкі колас. Пасадзіш яблыну ці грушу, ушчэпіш яе добрым чаранком і праз колькі гадоў іх галіны будуць угінацца пад цяжарам прыгожых пладоў. У людзей так-жа перадаюцца добрыя якасьці ад бацькоў дзецям, на аснове прыроднага права спадковасьці, але тут яшчэ даходзіць выхаваньне, якое скіроўвае чалавека на добрую, або на дрэнную дарогу. Добрае ўзгадаваньне надзвычайна ўзбагачвае маральныя, духоўныя і разумовыя здоль-

насьці чалавека. Чалавек з некаторага гледзішча падобны да сьвечкі — яе трэба запаліць, каб сьвяціла ў цемры, так і чалавека трэба ўзгадаваць, разьвіць даныя Богам здольнасьці, каб яны зазьзялі і маглі далей запальваць да дабра іншых. Усякаму ведама, колькі дабра можа чыніць на сьвеце чалавек добры, цнатлівы, разумны, сьвяты. І чым большае будзе ў ягоным сэрцы дабро, тым мацней і ў шырэйшым абсягу яно будзе перадавацца іншым. Маленькі агоньчык дае мала сьвятла і цяпла, вялікі-ж — шмат! Вялічэзнае сонца асьвятляе і агравае ўвесь сьвет, а дробная сьвечка ледва навокал сябе асьвятляе. Падобна і дабрата людзкая ў параўнаньні да дабраты Хрыста ёсьць яшчэ менш чым сьвечкаю ў параўнаньні да сонца.

Прыгляньмася да дабраты Хрыста. Як адвечнае Божае Слова ў лоне Бога Айца Ён праз свой творчы чын стварыў сьвет, а калі споўнілася «паўната часу», Ён прыйшоў на Зямлю, каб збавіць людзей, праз Свой збаўчы чын. І тут ужо праз сваё чалавецтва, праз сваю людзкую натуру Ён распаўсюджваў на сьвеце дабро і перадаваў яго другім . Чалавецтва для Бога-Слова было прыладаю ў вялікім дзеле распаўсюджваньня дабра і дасканаласьці.

У сьвеце ад мамэнту ствараньня было няшала розных дасканаласьцяў і няшала дабра, дык нараджаньне Хрыста ня было пачаткам разьліваньня і распаўсюджваньня дабра і дасканаласьцяў, не! Нараджэньне Богачалавека было толькі пачаткам Новага Запавету ў якім разьлівалася больш дабра, больш дасканаласьцяў і больш ласкі.

Ісус Хрыстос аж да трыццаці гадоў свайго існаваньня на зямлі вёў укрытае жыцьцё. Аб Ім акрамя Язэпа і Марыі мала хто ведаў. Таму і дзівіліся людзі, калі пачулі Ягоную мудрую навуку і пабачылі цуды. «Ці-ж Ён ня цесьляў сын? Ці-ж Ягоная маці не завецца Марыя і Ягоныя браты Якаў і Язэп і Сымон і Юда? А сёстры Ягоныя, ці-ж ня ўсе ў нас? (Тут гутарка не аб родных братох і сёстрах, якіх у Хрыста ня было, але аб дваюрадных) Дык адкуль у Яго ўсё гэта. І згоршваліся дзеля Яго» (Мат. XIII, 55-58). Але хоць Хрыстос у сваёй маладосьці ня быў ведамы ў шырэйшых кругох, дык Ён ўсёроўна распаўсюджваў бязупынна сваё бязьмежнае дабро, свае бесканечныя дасканаласьці ў сьвеце, у які Ён прыйшоў. Самая Яго прысутнасьць была дабром і дасканаласьцю. Ён маліўся, працаваў і выконваў Божыя прыказаньні, даючы тым заўсёдны прыклад для людзей.

Прыгляньмася бліжэй да Яго публічнага жыцьця і дзеяньня. Ён аздараўляе нявылячальна хворых, каторыя вераць у Яго. Аднойчы прыходзіць да Яго пракажонны і просіць, каб вылячыў яго. Хрыстос прасьцягвае руку, дакранаецца да яго і кажа: «Будзь ачышчаны!» (Мат. VIII, 3). І пракажонны адразу стаўся здаровым і чыстым. Іншым разам двох сьляпых, даведаўшыся, што Хрыстос ідзе каля іх, лямэнтавалі: «Зжалься над намі Сыне Давідаў!» Ісус кажа ім: «Ці верыце, што Я магу гэтае зрабіць? Яны адказваюць: Так, Госпадзе! Тады Ён дакрануўся да іх вачэй і сказаў: Хай станецца вам паводля вашае веры. І ўраз адчыніліся ім вочы» (Мат. IX, 28-30). Аднаго дня прывялі да Яго глуханямога і просяць, каб даў яму слух. Хрыстос бачыў іх гарачую веру, таму і выслухаў іх просьбу. Ён «глянуўшы на неба ўздыхнуў і сказаў... Эффата! што значыць: адчыніся! і ўраз-жа расчыніліся (глуханямому) вушы і разьвязаліся путы ягонага языка і пачаў гаварыць» (Марк. VII, 34-35).

Гэтыя цуды былі вялікімі дабрадзействамі, але Хрыстос робіць яшчэ большыя цуды і большыя дабрадзействы. Ён уваскрашае памёршых: адзінага сына беднае ўдавы (Лук. VII, 11-16), дачку Іаіра (Мат. IX, 18-28) і Лазара, хоць ягонае цела ўжо было пачало раскладацца (Ів. XI 38-44). І шмат якімі іншымі спосабамі памагаў Ісус бедным і веруючым людзям. Карміў галодных, бараніў перад багатымі і сільнымі гэтага сьвету, бязьлітасна граміў фарысэяў за іхны руйнацкі ўплыў і крывадушнасьць: «Гора вам, кніжнікі і фарысэі, крывадушнікі, што аб'ядаеце дамы ўдоваў, адмаўляючы доўгія малітвы, за гэта дастанеце цяжэйшы прысуд» (Мат. XXIII, 14).

Мноства прыкладаў дабрадзействаў Хрыста апісана ў Эвангельлях, але трэба ведаць што гэта толькі частка таго, што рабіў Хрыстос падчас свайго туземнага жыцьця. Аб шматлікіх дзеяньнях Хрыста Эвангельлі маўчаць. Толькі апостал Іван кажа: «І многа другога ўчыніў Хрыстос, але каб апісаць аб усім паасобна, дык думаю, і сьвет не зьмясьціў-бы напісаных кнігаў» (Ів. XXI, 25).

Хоць якімі шматлікімі і вялікімі былі дабрадзействы Хрыста ў бачымым сьвеце, але большыя былі ягоныя дабрадзействы для людзей у духовым і надпрыродным сьвеце. Хрыстос ня толькі аздараўляў хворае цела людзей, але перадусім аздараўляў душы. Аздараўляючы паралітыка, адпушчае яму грахі, выклікаючы гэтым вялікае зьдзіўленьне ў людзей (Мат. IX, 2-6) (Лука V. 20). Падобна і здаровым целам, але вялікім грэшнікам, Ён даруе грахі. Так Ён зрабіў з публічнаю грэшніцаю, якая яму абмывала ногі алеем і выцірала сваімі валасамі (Лук. VII, 47-50) і жанчыне блудніцы, якую фарысэі хацелі ўкаменаваць (Ів. VIII, 7-11) — уваскрашаючы іх праз гэта да духовага жыцьця. І так Ён рабіў пры кожным аздараўленьні; калі даваў зрок сьляпым, слух глухім, і аздараўляючы ўсякае іншае калецтва, заўсёды асьвячаў іх розум сьветам надпрыроднае веры і ў душы ўліваў дары Сьвятога Духа.

Тое, што Хрыстос рабіў падчас туземнага жыцьця, Ён не перастае рабіць ніколі, бо «Хрыс-

тос учора, і сягоньня, і на векі той-жа» піша ап. Павал (Жыд. XIII, 8). Чаму так? Бо Ён Сын Бога Жывога, Богачалавек, дзеля таго Ён, **як крыніца Усякага дабра, ласкаў і дасканаласьцяў, якою быў ад вякоў, ёсьць цяпер і будзе на векі вечныя.** І да людзей Ён гарыць і палымнее той-жа любоўю, якою гарэў і палымнеў тады, калі хадзіў па Палестынскай зямлі, калі ўстанавіў Таёмства Любові — Найсьвяцейшую Эўхарыстыю і ўсе іншыя сьвятыя Таёмствы, і калі заснаваў Сваю Царкву, калі цярпеў найстрашнейшыя мукі і памёр на Крыжы паміж двох разбойнікаў у ганьбе і пасаромленьні — ўсе гэта Ён перанёс дзеля таго, што любіў Свайго Нябеснага Айца і усё людзтва і кожнага з нас паасобку вечнаю і бесканечнаю любоўю.

Дык зьвярнемся да Хрыста, каб атрымаць ад Яго прабачэньне і адпушчэньне грахоў, каб адрадзіцца ў Яго сьвятой ласцы, каб жыць пабожна і тварыць добрыя ўчынкі для дабра ўсяго людзтва, для дабра свайго народу і для дабра самых сябе.

Але дзе-ж сягоньня знайсьці Хрыста? Хрыстос той-жа Сам, што ў сьв. Эвангельлі, прабывае ў Ягоных Таёмствах і ў Ягонай сусьветнай Царкве — там заўсёды астаецца той-жа Хрыстос, толькі пад другім відам. І тут нам трэба глыбокае і сьвятое веры, каб Ён стаўся нам так блізкім, як быў блізкі падчас туземнага жыцьця да жыхароў Палестыны. Але і там у тых мяйсцовасьцях, дзе Ён быў так блізкі да людзей, але дзе Яму ня верылі Хрыстос ня чыніў шмат цудаў (Мат. XIII, 58), бо да Хрыста трэба зьвяртацца з непахіснаю вераю. Дык малем Бога, каб даў нам глыбокую і гарачую веру. Гэта першы крок да сапраўднага адраджэньня, якое поўнасьцю дакажае Хрыстос. А Ён Сам кліча нас да Сябе: «Прыйдзеце да Мяне ўсе працуючыя і абцяжаныя, і Я супакою Вас» (Мат. XI, 28).

**а. Я. Тарасэвіч**

# Цудатворныя Іконы Божае Маці на Беларусі

**(Заканчэньне)**

**Месятыцкая.** Яе знайшоў адзін плытнік з в. Месятычы Пінскае акр. калі гнаў плыт па Прыпяці ля Мозыра ўканцы XIX ст. Спачатку паставіў яе на покуці ў сваёй хаце, але ў 1894 г. яна раптам закрылася быццам нейкаю белаю плёнкай. Пераляканы гэтым зьявішчам, селянін перанёс ікону ў мяйсцовую парахвіяльную царкву сьв. Параскевы Пятніцы. Там яна на кароткі час праясьнялася ў 1904 г. і зусім адкрылася ў 1939 г. Пры царкве ёсьць апісаньне яе гісторыі. Сьвяткаваньне на Дзясятуху.

**Нова-Сьвержанская.** Паходзіць дзесь з 1500 г. і ўславілася 22. III. 1638 г. Знайходзілася ў Усьпенскай царкве ў Новым Сьвержане каля Стоўпцаў. Сьвяткаваньне 22 сакавіка.

**Нова-Троцкая.** Паводля мяйсцовага пераказу яе меў падараваць бізант. імпэратар Мануіл II Палеалог вялікаму Князю Вітаўту, а той яе памясьціў у Троцкай царкве. Ікона намалёвана ў готычным стылю, але паводля малярскае тэхнікі паходзіць з XVI ст. Ля іконы дзеяліся шматлікія цуды. Дня 7 верасьня 1719 г. віленскі біскуп Бжостоўскія яе каранаваў.

**Оссовецкая.** Знайходзілася ў парахвіяльнай царкве ў Оссаве ў Наваградчыне. Дзеля заступніцтва Багародзіцы былі пераможаны татары, туркі і шведы каля Оссава-Дзядзілаўскае царквы. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Падлеская.** Яе знайшла на камені каля прыдаражнага крыжу ў в. Падлесьсе сьлепанароджаная дзяўчынка і адразу стала відушчай. Затым ля іконы аздаравеў мсьціслаўскі ваявода Юры Сапега і на яе чэсьць пабудаваў Сьвятадухаўскую царкву, куды перанесена ікону. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Пархімовіцкая.** Арыгінал гэтае іконы меў быць вельмі старога паходжаньня. Яе знайшоў селянін Пархім у Бабруйскім лесе каля в. Бартнікі на бярозе і там пабудаваў хацінку ды жыў як пустэльнік. З часам там паўстаў пасёлак Пархімовічы і пабудована царкву Ражства Багародзіцы, але тады няма ведама хто і калі забраў арыгінал іконы, асталася толькі копія, якая была зроблена перш, і каля яе так-жа дзеяліся цуды. Сьвяткаваньне 8(21) верасьня і на Праводную нядзелю.

**Пружанская** статуя Маці Божае ўславілася на Вялікдзень 1934 г. Тады праз некалькі дзён цяклі ў яе сьлёзы з вачэй. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Пустынска-Патрыяршая.** Зьявілася ў першай палове XII ст. мсьціслаўскаму князю Сымону. Ён быў асьлёп і аднойчы ў сьне бачыў якогась старога чалавека, які раіў яму памыцца ў крыніцы, што выцякала з Пустыні. Князь распытаўся, дзе знайходзіцца Пустынская крыніца, памыўся ў ёй і стаў відушчым. Пры гэтым ён акрамя цуда аздараўленьня яшчэ быў моцна зьдзіўлены, што на ліпе каля крыніцы, дзе ўзьняўшы вочы да неба дзякаваў Богу, убачыў ікону Багародзіцы. Там ён збудуваў каплічку і ля яе потым паўстаў Пустынскі манастыр 8 км. ад Мсьціслаўя. На іконе Богамаці схіляе сваю галаву да Боскага Дзіцятка. Сьвяткаваньне 15(28) жніўня.

**Раксўская.** Яе знайшоў селянін у лесе каля крыніцы недалёка ад мястэчка Ракава. Ля іконы пачалі дзеяцца шматлікія цуды. Потым каталіцкія духоўныя ўлады дакладна дасьледавалі яе зьяўленьне і цуды. У 1737 г. на мейсцы зьяўленьня была збудаваная Узьдзьвіжэнская царква. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Рудзенская.** Была знойдзена 12. X. 1687 г. у мястэчку Рудня 62 км. ад Віцебска. У 1689 г.




сьвятар Васіль перанёс яе ў жаночы Кіява-Пячэрскі манастыр і там яна асталася, але і астаўся яе назоў ад мейсца знахадкі. Сьвяткаваньня 12 (25) кастрычніка.

**Себежская.** Знайходзіцца ў вёсцы Ліпкі на Смаленшчыне. Аб яе паходжаньні вестак няма. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Смаленская Годзігітрыя.** Бізантыйская традыцыя яе залічае да іконаў намаляваных апосталам Лукою. Яна была калісь уласнасьцю бізантыйскіх імпэратараў і знайходзілася ў Влахэрнскай царкве ў Канстантынопалі. Туды аднойчы Божая Маці прыняла двох сьляпых і вярнула ім зор; ад таго часу яны не патрабавалі праваднікa — ὁδηγός, але ад таго часу ікона пачала называцца правадыркаю па шляхох — годзігітрыяю і суправаджала бізантыйскіх імпэратараў ува ўсіх паходах. Калі ў 1046 г. імпэратар Канстантын Парфірародны выдаваў сваю дачку Ганну за чарнігаўскага князя Усевалада, дык перадаў ёй між іншым гэтую ікону, а сын Ганны і Усевалада Уладзімер Манамах перавёз яе ў 1103 г. у Смаленск і ад таго часу яна пачала называцца Смаленскаю. Па працягу вякоў ікона двойчы вывозілася ў Маскву (1404-1456 і 1812-1813). Сьвяткаваньне



28-га ліпеня. Шматлікія цуды, што дзеяліся ля іконы, зрабілі яе вельмі слаўнаю ўва ўсёй Усходняй Эўропе. З іконы роблена шмат копіяў для манастырскіх і парахвіяльных цэркваў у Беларусі, Украіне і Расеі. Некоторыя копіі так-жа ўславіліся цудамі, напр.: **Смаленская-Харкаўская, Смаленская-Густынская, Смаленская Троіцка-Сергіеўскае лаўры, Смаленская-Варонежская, Смаленская-Сямівазёрная, Віленская Годзігітрыя** і шмат іншых.



**Копія Смаленска Годзігітрыі, што знайходзіцца ў Троіцка-Сергіеўскай лаўры**

**Старчыцкая.** Ёсьць два пераказы аб яе паўстаньні. Адзін кажа, што яе меў прывезьці з Смаленску ў Старчыцы ў 1689 г. князь Рыгор Асалінскі, як копію з Смаленскае Годзігітрыі. А другі пераказ кажа, што яе меў знайсьці ў густым лесе Старажышчы на Вышкавай гары ў Случчыне селянін ЛеўШапока ў XVII ст. На мейсцы знахадкі пабудована царкву і ля іконы пачалі дзеяцца цуды. У 1670 г. ля царквы пабудована Петрапаўлаўскі манастыр, зьнішчаны ў XIX ст. Перш ікона была ў манастыры, а потым у царкве Ражства Багародзіцы ў Старчыцах. Сьвяткаваньне 29 чэрвеня, 15 (28) жніўня і 8(21) верасьня.

**Супрасьльская.** Яе паходжаньне няведамае, але з падабенства да Смаленскае Годзігітрыі да-



гадваюцца, што яе прывёз з Смаленску каля 1500 г. яп. Іосіф Солтан, заснавальнік Супрасьльскага манастыра. Спачатку яна знайходзілася ў іконастасе манастырскае царквы, а ў палавіне XVII ст. была перанесена на калённу, якая падтрымоўвае купал з левага боку. Сьвяткаваньне 25 сакавіка і 28 ліпеня.

**Сьвірская.** Яе прынёс смаленскі князь Давыд Расьціславіч ў 1195 г. ў новазбудаваную Сьвірскую або Міхайлаўскую царкву ў Смаленску. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Троцкая** глядзі Новатроцкая.

**Тупічэўская** або **Сямігародная.** Яна знайходзілася ў Тупічэўскім манастыры каля Мсьціслаўя ў Магілёўшчыне.. Сьвяткаваньне 15(28) жніўня і ў Панядзелак Сьв. Духа.

**Усьвяцкая або Цэзарская.** Яе знойдзена ў XII ст. у мяйсцовасьці Бор каля мястэчка Усьвят, таму часам называецца так-жа **Бораўская.** У 1589 г. уславілася захаваньнем мяйсцовых жыхароў ад халеры і з таго часу ўстаноўлена сьвята на яе чэсьць 30 траўня. Знайходзілася ў Спаскай царкве м. Усьвят Віцебскае акр.

**Уміленьне-Смаленская.** Яна знайходзіцца ў Смаленску ад 1103 г. Ікона прадстаўляе Багародзіцу, як Яна глядзіць з уміленьнем на Дзіцятка Ісуса, Які ляжыць на Яе вопратцы і ў правай руцэ трымае зямную кулю. Сьвяткаваньне 19 сакавіка. Ёсьць яшчэ другая ікона «Уміленьне» ў Смаленскай царкве, што ў Акопах.

**Фалькавіцкая.** Яе знойдзена на пачатку XVIII ст. на беразе рэчкі ў бярозавым лесе каля мястэчка Фалькавічы 14 км. ад Віцебску і там-жа пабудована царкву. Богамаці і Дзіцятка на іконе ўкаранаваныя і ўпрыгожаныя багатымі рызамі. Уславілася яна шматлікімі цудамі. Сьвяткаваньне 15 і 22 жніўня.

---

Уканцы трэба яшчэ зацеміць, што акрамя вышэйпералічаных беларускіх іконаў Богамаці, ёсьць яшчэ некалькі іконаў, якія былі намаляваны на Беларусі і потым перавезены ў іншыя краіны і там уславіліся шматлікімі цудамі. Але так-жа і між беларускімі іконамі ёсьць некаторыя, што паходзяць з іншых краінаў.

Беларуская іконаграфія да гэтага часу дасьледавана вельмі мала, але падаючы сьпіс беларускіх іконаў Богамаці, нельга ня ўспомніць прынамся аб нейважнейшых характэрных азнаках беларускае іконапісі. Найстарэйшыя беларускія іконы належаць да тыпу чыста бізантыйскага мастацтва, а некаторыя проста паходзяць з Бізантыі. Згодна з агульнаю традыцыйнасьцю ў рэлігійным жыцьці бізантыйскі тып іконаў астанецца на Беларусі ўвесь час, але нават у найстарэйшых іконах беларускага паходжаньня сьледныя асаблівыя рысы беларускага мастацтва ў іконапісі, яны назіраюцца ў злагоджаньні рысаў аблічча, у вопратцы і фоне.

Характэрнаю азнакаю для шматлікіх беларускіх іконаў усіх часоў ёсьць кароны. Праўда гэта ня ёсьць выняткова беларускаю азнакаю, бо на Украіне і ў Польшчы так-жа ёсьць шмат каранаваных іконаў, але расейскія іконы каронаў ня маюць, а калі дзе такія ёсьць, дык гэта пераважна беларускага паходжаньня. Напрыклад, каранаваная ікона **«Спаручніца грэшных»** у Ордыне Арлоўскае губ., была прынесена з Заходняе Беларусі. Каранаваная ікона **«Благадатнае неба»** ў Архангельскім саборы ў Маскве, была прынесена туды Вітаўтаваю дачкаю Софіяю, як выходзіла замуж за Маскоўскага князя Васіля.

Ад XVI ст. на Беларусі пачынае адчувацца моцны ўплыў заходняе тэхнікі, гэта значыць, што

на іконах зьяўляюцца азнакі жывапісі: яны назіраюцца ў рысах абліччa, у зложанай кампазыцыі і ў акружаючых абставінах, якія быццам бяруцца з натуры — чаго ня было ў чыста бізантыйскім мастацтве. Тоны хварбаў на беларускіх іконах заўсёды больш сьветлыя, як у Бізантыі і Расеі. У тым-жа часе намесныя іконы ў іконастасе і некаторыя цудатворныя маляваліся не па пояс, як гэта было ў Бізантыі, але ў 2/3 росту.

У XVII ст. беларускія іконы маюць вельмі характэрна апрацаванае поле. На дошку накладаўся гіпс і ўціскаўся пры помачы формы з выразанымі ўзорамі. Гэткім чынам атрымоўвалася рэльефнае поле, якое потым малявалася ці пазалочвалася.

У XVIII ст. на беларускае мастацтва меў моцны ўплыў італьянскі жывапіс. Тады пад ўплывам італьянскіх мадоннаў зьявіліся на Беларусі іконы на ўвесь рост.

**а. Л. Гарошка**

# Прыродаведы аб Богу

Старая як сьвет прыказка кажа: Словы навучаюць, з прыклады прыцягваюць. Гэтая праўда адносіцца так-жа і да рэлігійнага жыцьця і да рэлігійных практыкаў. Шмат хто з людзей любіць аглядацца на іншых і ў адпаведнасьці да паводзін іншых сnаваць свой жыцьцёвы сьветагляд і праектаваць свае штодзенныя паводзіны да сваіх бліжніх і да Бога. Гэтая рыса характару можа быць багаславенствам, калі зьвятраецца ўвагу на добрае, але можа быць страшэнным няшчасьцем, калі малпуецца дрэннае.

Таму, што на вучоных зьвяртаецца большая увага чым на іншых, а нават быў час і мода, якая яшчэ і сёньня пакутуе за зялезнаю заслонаю, што аўтарытэт вучоных бязбожнікі выкарыстоўвалі для свае разбуральнае работы, дык будзе вельмі карысна даведацца аб рэлігійных пераканаьнях тых вучоных, якія зьяўляюцца найбольшымі аўтарытэтамі ў прыродазнаўстве: ці яны знайшлі сьляды Бога ў прыродзе?

Лік вызначыных прыродаведаў вельмі вялікі, таму каб лішне не расьцягаць артыкулу, прыдзецца абмежавацца да найбольш ведамых, пачынаючы ад канца XVIII ст. да нашых дзён.

**Ліннэй** (Linné) Карло (1707-1778) гэніяльны швэдзкі прыродавед і першы клясыфікатар расьлін. Свой твор «Батанічная філязофія» ён закончыў такімі словамі аб Богу: «Я ня бачыў Яго абліччa, але Ягонае адлюстраваньне ахапіла маю душу. Я тут і там заўважыў Ягоныя сьляды ў Ягоных сатварэньнях».

**Бартэз** (Barthez) Паўло-Язэп (1734-1806) францускі біялёг і мэдык. У біялёгіі ён ведамы з свае тэорыі віталізму. Усё жыцьцё быў веруючым і калі Лялянд умясьціў яго імя ў слоўніку бязбожнікаў, дык гэта ўважаў за абразу для сябе. Быў моцна пераканаы аб несьмяротнасьці душы. Адносна гэтага казаў: «пасьля сьмерці людзкое цела раскладаецца... а прынцып жыцьця... ягоная душа, вяртаецца да Бога, Які яе яму быў даў і забясьпечвае ёй трываньне і несьмяротнасьць».

**Лямарк** (Lamarck) Іван-Пятро-Антон (1744-1829) францускі прыродавед і асновапаложнік эвалюцыйнае тэорыі. Існаваньне Бога ня толькі прызнаваў, але ўважаў, што вывучэньне прыроды значна прычыняецца да Яго пазнаньня. Аб гэтым так пісаў у сваім творы «Аналітычная сыстэма»: «Чалавек... даходзіць да таго, што ўздымае сваю душу аж да найвышэйшага Аўтара ўсяго што ёсьць, або найвышэйшага Быцьця, аб Якім я гаварыў ўканцы, аб Богу, Якому ўва ўсім годзіцца бесканечнасьць... Вось-жа існаваньне ўсемагутнага Бога зьяўляецца складоваю часткаю ўсякае пазытыўнае веды чалавека адносна Боства». У іншым творы ён пісаў: «Толькі адзін Бог можа тварыць, а прырода можа толькі прадукаваць».

**Шпрэнгель** (Sprengel) Хрысьціян-Конрад (1750-1816) нямецкі батанік, які вызначыўся ў досьледах аб расплодзе расьлін. Быў веруючым.

**Дэ Сосюр** (de Saussure) Мікалай-Хведар (1767-1845) швайцарскі батанік, які першы выкрыў ў расьлінах калёрыгэнэз у зьвязку з іх дыханьнем. Усё жыцьцё быў веруючым.

**Жофруа-Сан-Гілер** (Geoffroy-Saint-Hilaire) Сьцяпан (1772-1844) францускі заалёг, што вызначыўся сваею тэорыяю аб эвалюцыі жывёлаў, праўда ня вельмі ўдалаю. Усе свае досьледы ўважаў, як «яшчэ адзін крок бліжэй да пазнаньня Бога» і казаў, што быў-бы вельмі шчасьлівы, каб сваімі досьледамі прыслужыўся людзям «больш уславіць Бога». Уміраючы ён пацяшаў сваю дачку так: «Мы хутка разлучымся, але мы зноў пабачымся».

**Дэ Бленвіль** (de Blainville) Гэнрык (1777-1850) францускі прыродавед акадэмік, супрацоўнік Кювье, ведамы сваімі працамі ў галіне клясыфікацыі жывёліннага сьвету, параўнаўчае анатоміі і філязофіі прыродазнаўства. Меў характар не асаблівы, але затое быў працавіты. У сваёй «Гісторыі навукі і арганізацыі» пісаў: «Суцэльнасьць людзкіх і Божых ведаў творыць суцэльны крут, які мае канцовую мэту: Бога, або разумную творчую сілу.... Адкуль адказ на пытаньні: хто я ёсьць?—Сатварэньне Божае, зробленае на Яго падабенства. Адкуль я паходжу? Ад Бога. Куды я йду? Да Бога».

**Дэ Кандоль** (*de Candolle*) Аўгустын (1778-1841) выдатны швайцарскі батанік, які апісаў і склясыфікаваў больш 80.000 расьлін. У сваіх успамінах ён пісаў: «Агульны пагляд батанікі ўздымае душу, пабольшвае яе і, незалежна ад таго, ці назіраецца суцэльнасьць, ці дэталі, яна выклікае падзіў і пашану да Таго, Чыя рука арганізавала расьліннасьць».

**Агард** (*Agardh*) Карло-Адольф (1785-1859) швэдзкі батанік, які вызначыўся ў досьледах вадаростаў. Аб ягоных рэлігійных перакананьнях сьведчыць ягонае становішча — быў пратэстанцкім біскупам.

**Дюналь** (Dunal) Міхал-Фэлікс (1789-1856) францускі батанік. Усё жыцьцё быў практыкуючым веруючым і памёр, прыняўшы сьв. Тайны.

**Эрэнбэрг** (Ehrenberg) Хрысціян-Готфрыд (1795-1876) паважны нямецкі заалёг шмат прычыніўся ў досьледах протозояў, інфузорыяў і караляў. Ён шмат разоў выступаў супраць матэрыялістаў, заяўлячы пры гэтым аб сваіх глыбокіх рэлігійных пераканаваньнях.

**Жюсіе** (Jussieu) Адрыян (1797-1853), а таксама ягоныя сваякі Антон, Бэрнард і Антон-Лаўрын — усе яны ёсьць выдатнымі францускімі батанікамі і ўсё шчыра веруючыя.

**Ліндлей** (*Lindley*) Джон (1799-1865) ангельскі батанік, які вызначыўся ў досьледах ружаў і архідэй, быў веруючым.

**Ґэпэрт** (Göppert) Гэнрык-Робэрт (1800-1884) нямецкі батанік, які шмат прыслужыўся ў дасьледаваньні прарастаньня насеньня і вэгэтацыі, быў веруючым.

**Оўэн** (Owen) Рышард (1800-1892) адзін з перадавых ангельскіх прыродаведаў свайго часу. Заалёгія і палеонталёгія яму заўдзячваюць вельмі шмат. Быў глыбокаверуючым і ў кнізе «Прынцыпы параўнаўчае остыёлёгіі» пісаў: «Больш глыбокае пазнаньне сапраўднае прыроды прыводзіць істоту абдараваную розумам да ўтварэньня больш дасканалага паняцьця аб сваім пачатку і аб сваім Сатварыцелю... Адзінства пляну нас вядзе да адзінае Інтэлігэнцыі, Якая іх утварыла. Нязнаньне або запярэчаньне гэтае праўды кінула-б на людзкую філязофію вэлюм, які ніколі не дазваліў-бы яе падняць».

**Броніяр** (Brongniard) Адольф-Хведар (1801-1876) францускі батанік-акадэмік, асновапалажнік палеанталягічнае батанікі, усё жыцьцё ён быў веруючым і ў сваіх выкладах падчыркваў надпрыродную прычыну пачатку існуючых рэчаў.

**Шімпэр** (Schimper) Карло Фрыдрых (1805-1867) нямецкі батанік, які сумесна з сваім сурадзічам **Браун** (Braun) (1805-1877) стварылі тэорыю філётаксіі. Абодва былі веруючымі.

**Кютцынґ** (Kützing) Фрыдрых-Траугут (1807-1893) нямецкі батанік, які запачаткаваў батанічную філязофію. Быў веруючым.

**Дарвін** (Darwin) Карло (1809-1882) ангельскі прыродавед сусьветнае славы, які сваім творам «Паходжаньне відаў» стварыў цэлы пераварот у прыродазнаўстве. З ягоным іменем зьвязана эвалюцыйная тэорыя разьвіцьця відаў. Бязбожнікі звычайна выкарыстоўваюць дарвінскую тэорыю і імя вучонага для падмацаваньня розных бязбожных тэорыяў. Сёньня ад дарвінскае тэорыі мала што асталося, бо ягоныя аргумэнты выявіліся як неабаснаваныя, аднак ягоныя некаторыя ідэі заўсёды маюць сваю вартасьць і важна тое, што яны ніяк ня могуць служыць на карысьць бязбожных тэорыяў. Наадварот ёсьць некаторыя паважныя вучоныя, якія з іх чэрпаюць доказы на існаваньне адзінага Бога. І сам Дарвін быў веруючым пратэстантам. Калі аднойчы прыйшоў да яго сябра Уолэс, дык яго прасілі крыху пачакаць, бо «Дарвін моліцца Богу». Важна так-жа асьведчаньне самога Дарвіна: «Я ніколі ня быў няверуючым, ніколі не пярэчыў існаваньня Бога... і думаю, што тэорыя эвалюцыі даецца пагадзіцца з вераю ў Бога». Як сам Дарвін стараўся пагадзіць сваю тэорыю з вераю можа сьведчыць заканчэньне кнігі «Паходжаньне відаў», у якой кажацца: «Ёсьць штосьці прываблюючае ў назіраньні дзікае зарослае скалы з яе зялёнаю вопраткаю з самымі living рознымі расьлінамі, пяючымі ў кустох птушкамі, хмарамі жамяры і кучамі рабакоў... Ёсьць штосьці ўзьнёслае ў гэтым разважаньні аб жыцьці з яго рознымі сіламі, якое першапачаткова было ўдзьмухнена Сатварыцелем можа толькі нямногім формам, або нават толькі адной адзінай». Яшчэ выразьней Дарвін прызнае існаваньне Бога ў кнізе «Мой сьветагляд».

**Ґрэй** (Gray) Аза (1810-1888) амэрыканскі батанік, які шмат унёс новага ў галіне батанічнае геаграфіі. Сваю веру ў Бога ён выказаў у творы «Прыродная сэлекцыя ня супярэчная прыроднай тэалёгіі» —сам назоў кнігі кажа аб яе зьмесьце.

**Жордан** (Jordan) Аляксей (1814-1897) францускі батанік, які міма некаторых памылак у сваіх досьледах нямала ўнёс новага ў тэорыю трансфармізму. Быў практыкуючым каталікам і памёр вярнуўшыся з Службы Божае.

Браты **Тюлян** (Tulasne) Людовік-Рэнэ (1815-1885) і Карло (1817-1884) францускія батанікі, якія вызначыліся досьледамі маленькіх грыбоў. Іхны трохтомны твор аб грыбох, мае шмат пабожных думак, а нават цэлыя сказы ўзятыя з Сьв. Пісаньня.

**Мэндэль** (Mendel) Рыгор (1822-1884) чэскі манах аўгустынец і выдатны батанік. Сваімі доўгагадовымі досьледамі ён выкрыў законы спадкоўасьці і тым даў пачатак новаму кірунку ў біялёгіі, які ад яго імені называецца мэндэлізмам. Лішне гаварыць аб ягоных рэлігійных пераканаьнях, бо-ж аб гэтым вымоўна гавораць ягонае жыцьцё — быў манахам.

**Пастэр** (Pasteur) Людовік (1822-1895) гэніяльны француcкі фізіялёг і біялёг. Ягоныя досьледы ў галіне бактэрыялёгіі выкрылі магчымасьць профіляктычных прышчэпліваньняў супраць мшатлікіх хваробаў і сталіся зваротным пунктам у мэдыцыне і біялёгіі. Рэлігійныя перакананьні Пастэра былі надзвычайна глыбокія, ён усё жыцьцё быў практыкуючым каталікам. Калі яго аднойчы спыталі, як ён быдучы так вялікім вучоным, можа быць так глыбока пабожным, адказаў: «Якраз таму, што я шмат перадумаў і шмат студыяваў, стаўся веруючым; як брэтонец (найбольш пабожная правінцыя ў Францыі). А калі-б яшчэ больш разважаў і больш студыяваў, дык-бы быў веруючым, як брэтонка». Аб сваёй веры Пастэр заяўляў публічна пры розных нагодах, асабліва, калі ён выступаў супраць пазытывізму.

**Вэляс** (Wallace) Альфрэд-Русэль (1823-1913) выдатны ангельскі прыродавед, заснавальнік заалягічнае геаграфіі, быў веруючым і ў сваім вялікім творы «Сьвет і жыцьцё» падаў шматлікія доказы існаваньня Бога з прыродных зьявішчаў.

**Фабр** (Fabre) Іван-Гэнрык (1823-1915) выдатны францускі прыродавед-энтамалёг. Калі яго аднойчы спыталі, ці верыць у Бога, дык адказаў: «Я не магу сказаць, што я веру ў Бога, бо я Яго бачу. Без Яго, я не разумеў-бы нічога; без Яго ўсё было-б цемраю. Я ня толькі захаваў гэтае перакананьне, але яшчэ яго ўзмоцніў, ці палепшыў, калі так льга сказаць. Кожная эпоха мае свае прывярэдлівасьці. Я ўважаю атэізм за прывярэдлівасьць — гэта хвароба часу. А што да мяне, дык хутчэй мне можна зьдзерці скуру, чым вырваць веру ў Бога».

**Фон Мюльлер** (von Müller) Фэрдынанд (1825-1896) ведамы нямецкі батанік, быў веруючым.

**Ґодрі** (Gaudry) Альбэрт (1827-1908) францускі прыродавед, заснавальнік гістарычнае і філязафічнае палеонталёгіі. Трымаўся эвалюцыйнае тэорыі, але ўважаў, што гэта Бог кіруе эвалюцыйным працэсам. Быў глыбока перакананы, што жыцьцё мае свой пачатак ад Бога. «Жывыя істоты не маглі самі вытварыць жыцьцёвых сілаў, бо ніхто ня можа даць таго, чаго сам ня мае. Калі мы сабе ўявім усе фізычныя і хэмічныя сілы, дык убачым, што яны ня твораць жыцьцёвае сілы, а перадусім сілы думаючае. Вось-жа гэта першая прычына, аб якой кажуць: гэта Бог, Які стварыў сілы».

**Фон Сахс** (von Sachs) Юлі (1832-1897) выдатны нямецкі батанік, які шмат прыслужыўся да выясьненьня некаторых зьявішчаў у фізіялёгіі расьлін, быў веруючым.

**Цайлер** (Zeiller) Карло-Рэнэ (1847-1915) францускі інжынер, які, працуючы ў шахтах, пасьвяціўся студыям палеобатанікі, робячы паважныя адкрыцьці ў гэтай галіне. Потым быў прафэсарам і акадэмікам. Заўсёды быў шчыра веруючым і ў рэлігійных практыках знаходзіў падтрыманьне ў сваіх цярпеньнях. Яго можна было часта бачыць, як у сваёй парахвіяльнай царкве Сан-Сюльпіс ён разам з гуртам пабожных вернікаў прыступаў да сьв. Прычасьця.

**Райнкэ** (Reinke) Іван (1849-1931) першаклясны нямецкі батанік, які ў сваім творы «Сьвет як чын» пісаў: «Паводля майго перакананьня атэізм нельга пагадзіць з неўпярэджаным дасьледаваньнем прыроды. Пазнаньне прыроды вядзе непамыльна да ідэі Бога і якраз на аснове права прычыновасьці я таксама перакананы аб быцьці Бога, як і аб быцьці прыроды».

**Васман** (Wasmann) Эрык (1859-1931) нямецкі прыродавед энтамалёг, шырока ведамы ягоныя досьледы жыцьця мурашкаў. Аб агоных рэлігійных прaкананьнях вымоўна сьведчыць ягоны стан, быў езуітам.

**Морган** (Morgan) Тамаш Гунт (1866-1945) амэрыканскі біялёг, які ўславіўся сваімі працамі ў спадковасьці. У 1933 г. атрымаў нагароду Нобля і быў сябрам шматлікіх акадэміяў у тым ліку і Папскае. Аб сваіх рэлігійных перакананьнях ён так казаў, атрымоўваючы дыплём папскае Акадэміі: «Я не каталік, але я веруючы і думаю, што сьвет не павінен забывацца аб тым, якую вялізарную прыслугу зрабіла нам Каталіцкая Царква, нам тым, што працуюць на полі навукі, бо яна зьяўляецца зьвязваючым зьвяном між старою і сучаснаю навукаю. Забывацца аб гэтым, было-б ня толькі няўдзячнасьцю, але і сапраўднай трагэдыяй».

**Лекомт-дю-Нюі** (Lecomte du Noüy) Пятро (1883-1947) выдатны францускі біялёг і фізіялёг, зрабіў шмат адкрыцьцяў, якія сёньня выкарыстоўваюцца ў мэдыцынскіх лябораторыях. Шыроковедамае яго адкрыцьцё біялёгічнага часу. Усе ягоныя творы азначаюцца глыбокаю рэлігійнасьцю, але асаблівае мейсца з гэтага гледзішча займае кніга «Чалвек і яго прызначэньне» ў якой на ўступе аўтар сьцьвярджае, што «калісь выкарыстоўвалі навуку, каб падкапаць асновы рэлігіі. Вось-жа сёньня трэба ўжываць навуку, для ўмацаваньня асноваў рэлігіі» і ў гэтым дусе ён падае нязьлічаныя аргумэнты.

**Кюэно** (Cuénot) Лука-Клёд-Юлі сучасны францускі біялёг шырокаведамы сваімі працамі ў галіне спадковасьці і гэнэтыкі. У творы «Вынаход і мэтанакіраванасьць у біялёгіі» (1941) ён кажа, што ані тэорыя мутацыяў, ані прыпадкі не выясьняюць эвалюцыі, дык не астаецца нічога іншага, як верыць «у духовую магчымасьць вынахадаў, што яе маюць у сабе жывыя істоты і якая дзейнічае на матэрыю, як ідэя мастака на матэрыял, які ён ужывае».

**Конклін** Эдвін Г. сучасны амэрыканскі біялёг. Ён кажа, што працэс эвалюцыі, вытвараючы усё

вышэйшыя і вышэйшыя формы жыцьця, ня толькі не падкопвае нашае веры ў Бога, але наадварот, умацоўвае гэтую веру ў тым, што сапраўды Разумны Пачатак кіруе ўсім тварэньнем у сьвеце.

**Піпэрэк** сучасны нямецкі біялёг. Пасьля заканчэньня апошняе вайны казаў: «Мы прыходзім да таго перакананьня, што мы былі на фальшывай дарозе жыцьця, бо былі адвярнуліся ад сапраўднае прыроды і ад усяго, што Божае ды ўтапіліся ў выдуманым няпраўдзівым сьветаглядзе. Вяртаймася да беспасрэднага перажываньня прыроды, да таго перакананьня, што сапраўды існуе вышэйшы самастойны сьвет па-за межамі зямнага матэрыяльнага і разумовага ды ўтварэм перадумовы зразуменьня для паважных і пераважаючых маральных і рэлігійных вартасьцяў».

— — — — — —

Вышэй пералічаныя сьведчаньні прыродаведаў даволі вымоўныя і не патрабуюць паясьненьняў. Калі аднак іх супаставіць з папярэдне апублікаванымі сьведчаньнямі аб Богу: астраномаў (Нр. 5-6, стар. 6), фізыкаў (Нр. 35-36, стар. 2), геалёгаў (Нр. 54, стар. 6) і іншых (Нр. 55, стар. 4) дык сапраўднае становішча перадавых вучоных адносна Бога і рэлігіі стане яшчэ ясьнейшым і вымаўнейшым.

**Сабраў а. Л. Гарошка**

# У справе назову Царквы

Два гады таму зьявіўся ў «Зьнічу» Нр. 17 артыкул: «Па лініі вытрыманай кансэквэнцыі», у якім аўтар, схаваны пад крыптонімамі «П. Д.» закрануў справу беларускае рэлігійнае тэрміналёгіі і спэцыяльна затрымаўся над словамі «Царква», «Касьцёл», прапануючы на іх мейсца свой наватвор.

Назоў такое важнае ўстановы, якою ёсьць рэлігійная ўстанова, заснаваная самым Ісусам Хрыстом для збаўленьня людзкіх душаў, ёсьць бязумоўна вельмі важнаю справаю і дзеля гэтага неабходна разглядзець тую прапанову.

Да гэтага часу ўспомнены артыкул ёсьць адзіны, які катэгарычна дамагаецца зьмены назову і ўводзіць наватвор, а рэдактар «Зьніча» не чакаючы прыняцьця тае прапановы кампэтэнтнымі ўладамі, ані нават адабраючых галасоў з боку грамадзкасьці і вернікаў, пачынае карыстацца наватворам, як агульнапрынятым словам, уводзячы гэтым баламуцтва.

Перш чым разьбіраць самую прапанаваную зьмену, не ад рэчы будзе пашукаць і яе аўтара. Знайсьці яго зусім лёгка, бо і стыль і мова артыкулу выяўляюць, што «П. Д.» гэта сам рэдактар «Зьнічу» кс. др. П. Татарыновіч, які першы ўжыў слова «субожня», пеpавыдаючы ў 1949 г. малітаўнік «Голас душы».

Сваё дамаганьне зьмяніць словы «Царква», «Касьцёл» кс. Татарыновіч ставіць у катэгарычнай форме. Ці сапраўды гэтая зьмена такая неабходная?

Беларусы прынялі хрысціянства ў X стагодзьдзі і адначасна прынялі тую тэрміналёгію, якую несла з сабою новая рэлігія, у тым ліку і слова для азначэньня тае Хрыстовае арганізацыі, якую называюць Царквою. Ужо дзесяць стагодзьдзяў існуе на Беларусі хрысціянства і за гэты час беларускі народ перажываў пэрыяды дзяржаўнасьці і пэрыяды паняволеньня, перажывала гэтыя пэрыяды і беларуская мова. Некаторыя словы адпадалі, некаторыя зьмяніліся і нямала тварылася новых слоў, але да гэтага часу ніхто ня выказваў патрэбы зьмены слова «Царква», не адчуваючы відавочна да гэтага ніякае патрэбы.

Як-жа матывуе неабходнасьць зьмены кс. Татарыновіч? Ён кажа, што «Царква» гэта «змаскалены, ці зґэрманізаваны (Kirche) баўгарызм», а «Касьцёл — палянізм». І адно і другое цьверджаньне няпраўдзівае. Аб паходжаньні слова «Царква» ёсьць каля дзесятка тэорыяў, але ніхто з моваведаў не называе яго баўгарызмам. З сумам трэба сьцьвердзіць, што кс. Татарыновіч закрануў пытаньне якога зусім ня ведае, хоць адносна слова «Царква» ёсьць вельмі багатая літаратура. Даволі сказаць, што ў кніжцы Гінара Гінарсона, якая прысьвечана спэцыяльна гэтаму слову толькі самая бібліяграфія займае цэлых пяць старонак (1). Хто цікавіцца гэтым пытаньнем, дык там знойдзе вычэрпваючыя інфармацыі. Тут няма сэнсу пералічаць усе тэорыі адносна паходжаньня слова «Царква», бо некаторыя з іх зусім адкіненыя, напр. тыя, што стараліся вывесьці яго паходжаньне ад лацінскага слова circus (2). Нямецкія і пронямецкія тэорыі, якія выводзілі яго ад старавысокагэрманскага слова chiricha (3), ці ад пазьнейшых яго формаў у далейшым самі мусілі шукаць пачатку гэтага слова ў грэцкай мове. І сёньня ўсе моваведы канчаткова прыйшлі да выснаўку, што слова «Царква» паходзіць ад грэцкага слова κυριακόν, κυριακή — Господні (4).

1) Gunnar Gunnarsson, Das slaviesche Wort für Kirche.«Upsala Universitets Arsskrift», Upsala 1937. star. 58-62.

2) Miklosieh Franz, Die Christliche Terminologie der slavischen Sprachen. «Denkschriften der Phil.-histor. Classe der Kais. Akademie der Wissenschaft» Bd. XXIV. Wien 1876. star. 17.

3) Miklosich, op. sit. star. 17.

4) Gunnarsson, op. cit. star. 5.

Нават гістарычна бяручы слова «Царква» нельга называць змаскаленым, ці згэрманізаваным, бо яно ўспрыймалася і ўжывалася славянамі незалежна ад немцаў і задоўга да таго як яго ўспрынялі расейцы. Сьвятыя браты Кірыла і Мяфод ведалі славянскую мову яшчэ перад тым, як прыйшлі ў Баўгарыю. У старым жыцьцяпісе гэтых сьвятых гаворыцца, што імпэратар Мануіл, выпраўляючы іх на місію, казаў: «Вы ёсьць салуняне, а ўсе салуняне гутараць чыста па-славянску». Што гэтыя словы імпэратара адказваюць праўдзе сьведчыць той факт, што ад VI в. у Грэцыі каля Солуня пасялілася вялікая група славян, якія адарваліся ад беларускага племені Дрыгвічоў. Баўгарскі манах Храбар (VIII ст.) іх называе Другувітамі, значыць іхняю моваю і гаварылі сьвятыя браты Кірыла і Мяфод. Прымаючы пад ўвагу гэтая весткі нам ня толькі ня выпадае ствараць нейкае ўпярэджаньне да слова «Царква» але хутчэй сьцьвердзіць, што беларусы да яго маюць найбольшае права.

Што да слова «касьцёл», дык хоць яно на Беларусь сапраўды прыйшло з Польшчы, але яно ня ёсьць польскае, бо-ж палякі ўзялі яго ад чэхаў, а чэхі стварылі яго ад лацінскага слова castellum — замак (5). Пры гэтым неабходна падчыркнуць, што ў чэскай і славацкай мовах гэтае слова адносіцца толькі да азначэньня сьвятыняў, а да азначэньня рэлігійнае арганізацыі яна маюць слова Cirkev.

Як яшчэ адзін закід супраць слоў «Царква», «Касьцёл» кс. Татарыновіч падчырквае, што яны ня выйшлі «з нетраў незалежнай беларускай душы». Гэтае цьверджаньне ёсьць проста дэмагогіяй, бо-ж і самое хрысціянства ня выйшла з нетраў беларускае душы, дык ці-ж яго так-жа трэба зьмяніць? Прытым большасьць рэлігійнае тэрміналёгіі паходзіць з гэбрайскае, грэцкае і лацінскае моваў — ці іх усе неабходна мяняць? На ўсім сьвеце хрысьціянства несла з сабою багатую тэрміналёгію для азначэньня ўсяго таго духоўнага і культурнага багацьця, якое яно мела ў сабе і ўсе ўважаюць гэты факт не як штосьці годнае заганы, але як паважны здабытак (6). Ці-ж у нас белае павінна для арыгінальнасьці называцца чорным?

Далей кс. Татарыновіч дадае яшчэ адну прычыну да зьмену назоваў — гэта «утаеная нехаць да слова «касьцёл»... і... упярэджаньне да слова «царква». У гэтым цьверджаньні ёсьць частка праўды, але толькі частка, бо ўласьціва ўпярэджаньне і нехаць адносяцца ня так да рэлігійных установаў, што называліся «Царквою» і «Касьцёлам», але да духавенства, якое ў тых установах рабіла надужыцьці рэлігіі. У такім палажэньні зьмена слоў нічога новага ня дасьць, а калі-б і ўвесьці якое новае слова, дык яно хутка станецца такім-жа, як тыя, што яно замяніла. Затое зьмена на лепшае адносінаў духавенства да вернікаў і бяз зьмены слоў зьнішчыць і ўпярэджаньне і нехаць.

Далейшая заўвага кс. Татарыновіча, што «ня можа існаваць дзьвёх моваў» для аднаго народу, ёсьць зусім слушная. Трэба толькі пажадаць, каб ён сам дастасаваўся да яе і пакінуў тварыць нейкую дзівосную «зьнічаўскую» мову, пераладаваную наватворамі, правінцыяналізмамі і барбарызмамі. Дзе-як-дзе, але ў рэлігійных часапісах такая практыка зусім недапушчальная, бо тут абавязвае правіла, што да народу трэба зьвяртацца зразумелаю моваю. Рэлігійны часапіс заўсёды закранае рэлігійныя пачуваньні з якімі экспэрымэнтаў рабіць нельга.

Уканцы кс. Татарыновіч прапануе замест «Царква», «Касьцёл» новае слова «Субожня», якое нібыта мае быць «вынятым із старых нашых назоваў сьвятыні» і спасылаецца пры гэтым на твор І. Малышевскага «Творенія Отца нашего св. Кирилла Туровскаго», Кіевъ 1880, бач. XLV. Названую кніжку знайсьці нялёгка, але вось знайшоўшы яе дарэмна там шукаць слова «субожня». Такога слова ня ведае, ані Малышэўскі, ані сьв. Кірыла Тураўскі. І гэта відаць з далейшых слоў кс. Татарыновіча, бо ён замест назваць той твор і сказ, дзе можна знайсьці тое слова, пачынае апавядаць гісторыю: «Турускія князі, палоненыя ў Кіяве Валадзімерам тамашн. сваю фамілійную сьвятыню называлі «божэнка» «божня», не «царква»». І далей падае ўвесь працэс тварэньня новага слова: «Каб данаравіць гэты адноўлены прыгожы архаізм да паняцьця суспольнасьці Божай, якой і зьяўляецца «эклесія» (sic!) дадана суфікс (sic!) «су» і выйшла «субожня» «субажэнскі»». Тут, што ні сказ дык памылка. Як ні прыкра сьцьвярджаць гэты факт, але яго сьцьвердзіць неабходна. Асабліва прыкра, што кс. Татарыновіч спасылаючыся на твор Малышэўскага, стараецца сьведама ўвесьці чытача ў блуд. З цытаты відаць ясна, што «субожня» ня вынята з ніякага старога твору; гэтага слова ніколі ня ведаў ні сьв. Кірыла Тураўскі ні Малышэўскі; горш таго яны нават ня ведалі слова «божня», ад якога хоча кс. Татарыновіч вывесьці свой наватвор.

Успомнены Малышэўскі на старонках XLIV і XLV кажа дасло̆ўна: «Далее Туръ, какъ знатный варягъ могъ быть начальным строителемъ упоминаемой въ летописи подъ 1144 годомъ туровой божницы, стоявшей противъ того святого места, где совершилось крещеніе кіевлянъ. И если такъ, то это была фамильная церковка Тура, ставшая потом усыпальницею его, его рода и пришлых съ нимъ туровскихъ варяговъ, почему и называлась божницею, т. е. усыпальною, кладбищенскою церковью». У нотцы дадана: «Божницами, божен-

5) Miklosich, op. cit. star. 18.

6) Siegert H. Griechisches in der Kirchensprache. Heidelberg. 1950.

ками назывались у насъ и церкви, но по преимуществу церкви или церковки усыпальныя, нагробныя, кладбищенскія». Вось-жа аб «божні» ані на той старонцы, ані на іншых няма ўспаміну і таму спасыланьне кс. Татарыновіча на Малышэўскага ёсьць недапушчальным фактам і асабліва прыкра, што ён яго паўтарае ў паясьненьні да перакладу сьв. Эвангельля паводля Матэя (на стар. 93), зьнішчаючы тым самым давер да перакладу і асабліва да паясьненьняў.

Выдумаўшы слова «божня» кс. Татарыновіч творыць далей ад яго паходнае слова, дадаючы да яго прэфікс «су», які ён яшчэ на дадатак называе памылкова суфіксам.

Да гэтага трэба заўважыць, што нават калі-б «божэнкі» дзесь хтось і называў «божнямі», дык яны ня прыгодныя да таго, каб з іх выводзіць назоў царквы-сьвятыні і Царквы-установы. У вышэйцытаваным тэксьце Малышэўскі выразна «божэнкі» разрозьнівае ад іншых сьвятыняў, бо гэта былі цэркаўкі ўсыпальніцы, намагільныя капліцы, ці як іх цяпер у нас некаторыя называюць магільні — гэтыя сьвятыні свой пачатак выводзяць яшчэ з дахрысьціянскіх маўзолеяў. У божэнках культ адпраўляўся рэдка, або толькі прынагадна, тады калі фамілійныя сьвятыні маглі мець гробы ў сваіх падвалах, або і зусім іх ня мець, але мелі сталы культ. Нажаль гэтае розьніцы кс. Татарыновіч зусім не заўважвае.

А слова «бажніца» захавалася і да сёньня ў беларускай мове, але для азначэньня нехрысьціянскіх сьвятыняў: «жыдоўская бажніца». Таму Пушча выказваючы вобразна сваю нязгоду з камунізмам, пісаў: «Ня гнуся каленьмі ў бажніцы-сьвятыні».

Цяпер, не зважаючы на ўсе беспадстаўнасьці і недарэчнасьці, якіх дапусьціўся кс. Татарыновіч пры тварэньні слова «субожня» трэба цікавіцца, ці яно новае ў беларускай мове? Зусім не! Праўда сёньня ў літаратурнай мове гэтае слова ня ўжываецца, але Насовіч ў сваім слоўніку падае некалькі слоў блізкіх да яго: **«Субожный** — имеющій Бога в сердце. Милосердный.; **Субоженый** — доведеный до нищеты. «Калі дасі тым ня будзеш субожэн».; **Субоживаць —** доводить до убожества». (7). У некаторых мяйцовых гутарках і цяпер яшчэ захаваліся гэтыя словы і паводля іх «субожня» азначала-б даводжаньне да жабрацтва, ці інстытуцыю, якая даводзіць да жабрацтва.

7) И. И. Носовичъ, Словарь Бѣлорусскаго нарѣчія. С.-Петербургъ, 1870, стар. 620.

Калі-б не зьвяртаць увагі на стары слоўнік Насовіча і папрабаваць азначыць зьмест слова «субожня» згодна з духам сучаснае беларускае літаратурнае мовы, дык яно магло-б азначаць згуртаваньне багоў — гэта значыць тое, што грэкі называлі пантэонам. Назваць аднак такім словам Хрыстовую Царкву — гэта ёсьць глумам над рэлігійнымі пачуцьцямі і пахне гэрэзіяй.

Таму, што «Зьніч» выдаецца ў Рыме, сталіцы каталіцызму, камусьці магло-б здавацца, што тыя моўныя «экспэрымэнты», ад якіх роіцца на старонках «Зьнічу», маюць якуюсьці рымскую інспірацыю адносна беларусаў. Вось-жа каб так ніхто ня думаў, на гэтым мейсцы сьцьвярджаецца, што моўныя дзівацтвы кс. Татарыновіча ёсьць выключна ягоным дзелам.

Бязумоўна, калі камусьці непадабаецца нейкае слова, ён мае поўнае права шукаць іншае, але з усяго вышэйсказанага відаць, што няма ніякай ані асновы, ані патрэбы да зьмены ад вякоў зьбеларушчанага і агульнапрынятага слова «Царква» (Каталіцкая Царква, Праваслаўная Царква). Да таго варта дадаць, што ім карыстаюцца ня толькі беларусы, але агулам усе славянскія народы за выняткам палякаў і то толькі ад XVI ст. Кожны народ вымаўляе гэтае слова на свой лад, адпаведна да духу свае мовы: баўгары — Църква, беларусы — Царква, кашубы — Cerkvjo, лужычане — Cark'oi, македонцы — Црква, палякі да XVI ст. Cerkiew, (8) а потым Kościół, расейцы — Церковь, славакі — Cirkev, славэнцы — Crkev, сэрбы — Црква, украінцы — Церква, харваты — Crkva, чэхі — Cirkev. Гэтыя-ж словы звычайна ўжываюцца і да азначэньня сьвятыняў, толькі чэхі і славакі, як ужо было зазначана, маюць асобнае слова kostel. На Беларусі да XVI в. ужывалася толькі слова «царква», а потым пачаў пашырацца польскі звычай называць цэрквамі толькі сьвятыні ўсходняга абраду, а касьцёламі — сьвятыні лацінскага абраду і з часам гэты звычай стаўся агульным; з такім станам рэчаў хочашня-хочаш, але неабходна рахавацца, бо міма ўсіх стараньняў вернікі заўсёды будуць называць рознымі словамі сьвятыні, якія і нутрана і вонкава розьняцца між сабою. Толькі тады, калі ў іх вернікі будуць сябе пачуваць аднолькава, як у доме аднаго супольнага Нябеснага Айца, зьнікне розьніца ў назовах сьвятыняў.

**а. Леў Гарошка**

8) Edward Klich, Polska terminologja chrzescijanska, Poznan 1927. star. 88.

# Пад знакам „рускае і польскае веры“

## АКТУАЛЬНАСЦЬ ТЭМЫ

Між шматлікімі балючымі пытаньнямі беларускага рэлігійнага жыцьця, бадайшто найбольш балючым было і нажаль сёньня яшчэ ня зусім перастала быць, надужыцьцё рэлігіі акупацыйнымі ўладамі ў мэтах іхняе палітыкі вынарадаўленьня. Гэтае пытаньне ўжо ня раз закранадася ў кнігах і часапісах так беларускіх, як і іншамоўных, але

нажаль вельмі агульна і звычайна толькі часткава.

Калі-б надужыцьцё рэлігіі ўжо належала да мінулага, і калі-б сёньня маглі спакойна зажываць глыбокія раны Беларускае Царквы і беларускага рэлігійнага жыцьця, спрычыненыя калішнімі надужыцьцямі, дык можна было-б абходзіць маўчаньнем гэтае далікатнае пытаньне, згодна з агульным звычаем, што зямлёю зарыта, хай будзе забыта — нажаль так ня ёсьць. Яшчэ і сёньня ня спыняюцца атакі і падступныя пляnаваньні супраць беларусаў у імя ці то «польскае», ці «рускае» вераў і вынікі гэтых атакаў час-да-часу даюць аб сабе знаць у розных непаразуменьнях у рэлігійным і грамадзкім жыцьці. Таму маўчаць аб тых нягодных пляnаваньнях супраць аднае з найважнейшых галінаў беларускага духовага жыцьця аніяк нельга і то з трох прычынаў: 1. Хто ведае, ці не за вяковыя надужываньні рэлігіі Бог дапусьціў на нашых і на суседніх землях, так цяжкае рэлігійнае прасьледаваньне, якім ёсьць бальшавіцкае прасьледаваньне? 2. Усякае надужыцьцё рэлігіі ў нерэлігійных мэтах спрычыняе страшэнную шкоду самой рэлігіі, таму неабходна гэтаму зьявішчу супрацьставіцца якнайбольш рашуча, але перш трэба яго дакладна пазнаць. 3. Прасякнутае палітыканствам духавенства акупуючых Беларусь народаў прывыкла да бязглуздых прэтэнзіяў адносна беларусаў і ўважае гэта за нармальнае зьявішча, а ўсякі праяў беларускага рэлігійнага жыцьця стараецца кляйміць даносамі, як «палітыканства». Даходзіць да таго, што нават калі беларус да Бога зьвернецца ў роднай і Богам данай мове, дык гэта называюць нейкай страшнай «палітыкай».

Звычайна ўсякія надужыцьці дзеюцца прыхавана пад найкімі «шляхотнымі матывамі». Дык першым крокам у супрацьдзеяньні ім ёсьць вынясеньне іх на дзённае сьвятло. Аднак у эміграцыйных умовах даволі цяжка высьняць гісторыю Царквы на Беларусі, ня маючы доступу да архіваў на бацькаўшчыне. У сілу гэтага факту прыдзецца абмежавацца толькі да тых дакумантаў і фактаў, якія ўжо апублікованы, але астаюцца мала ведамымі ў шырэйшых кругох.

Неабходнасьць такіх публікацыяў з галіны гісторыі Царквы на Беларусі адчуваецца ад даўжэйшага часу даволі востра. Дзеля нястачы такіх публікацыяў кожны той, хто цікавацці беларускім рэлігійным жыцьцём, проста змушаны карыстацца чужымі і звычайна тэндэнцыйнымі публікацыямі, трапляючы пад іхны ўплыў. У выніку гэтага здараліся сапраўды жалюгодныя выпадкі; нават беларусы патрыёты ставаліся ахвярамі чужое і варожае прапаганды. За прыкладамі далёка хадзіць ня трэба.

Нядаўна ў газэце «Бацькаўшчына» Нр. 45 (176) зьявіўся артыкул “Нятрапны выбар». Аўтар артыкулу, схаваны пад псэўдонімам С. Грынева, паўтарае бяз ніякае засьцярогі закіды супраць сьв. Ёзафата, якія праўдападобна вычытаў з украінскае кніжкі «Життя Йосафата Кунцевича» Винніпег 1948 г.. Але аўтар тае кніжкі В. Кудрык з уласьцівым сабе засьляпленьнем і нянавісьцю да каталіцызму паўтарыў толькі тое, што пісаў калісь расеец Бантыш-Каменскій М. Н. у кнізе «Историческое известие о возникшей въ Польше уніи» (Выдавалася яна аж тры разы: С. Петербургъ 1806, Вильна 1864 і Масква 1905, Гэтаю кнігаю карысталіся і Сапуноў і Энгельгардт і інш.). Тымчасам агульна ведама, што Бантыш-Каменскі быў ня толькі бяскрытычным, але сьведама ўводзіў фальшаваньне. Так зрабіў ён з некаторымі сказамі ў лісьце канцлера Льва Сапегі з дня 17-III-1622 г. да сьв. Ёзафата і якраз адно з тых мейсц трапіла на старонкі «Бацькаўшчыны». Там між іншым у абзацы, надрукаваным тлустым шрыфтам. чытаем: «Тыя, якія ня хочуць прыняць вуніі — пішаце вы далей — мусяць быць выгнанымі зь дзяржавы» і т. д. Няхай Бог бароніць нашу бацькаўшчыну перад такой глупотай...» А ў арыгінале гаворыцца: «Гэтак каталіцкая рымская вера і апушчаная і выгнаная з дзяржавы і т.д. — **Absit tantum scelus a patria nostra** » (Няхай ня будзе такога злачынства ў нашай бацькаўшчыне). Вос-жа сэнс зусім адваротны; а гэтае мейсца з лісту Грынеў выбраў нібы найважнейшы аргумант для апраўданьня свайго няпрыхільнага становішча супраць сьвятога. Тымсамым Грынеў стаў ахвяраю свае бяскрытычнасьці.

Можна думаць, што Грынеў нават ня быў сьведамы, што карыстаўся сфальшаваным тэкстам і відавочна стараўся засьцерагчыся ад гэтага, бо бачна ягонае стараньне абгрунтаваць сваё становішча аргумэнтамі зачэрпнутымі з вуснаў такога вяліката патрыёта, якім быў Леў Сапега, але зьвярнуўся да нясумленных пасрэднікаў, якія перакруцілі не адзін факт з нашае гісторыі і праз гэта ўнёс лішнюю калюшку ў грамадзкую апінію.

Калі а. Сіповіч зьвярнуў увагу Грыневу на некаторыя памылкі і падаў крыніцы, дзе можна знайсьці дакумантальны матэрыял, каб тыя памылкі паправіць, дык Грынеў чамусьці не захацеў з іх скарыстаць. Горш таго, ён у «Бацькаўшчыне» Нр. 8(189) апублікаваў артыкул «Усё-ж нятрапны выбар», як адказ а. Сіповічу, у якім між іншым піша: «Аўтар гэтых радкоў (значыць С. Грынеў) таксама як і а. Сіповіч чытаў выданьне Атаназа Вэлыкага: «сьв. Ёзафат Героматрыр»... Я чытаў і дадам, з асаблівай увагай лісты выменьваныя між Львом Сапегам і сьв. Ёзафатам». Гэты сказ Грынева нельга назваць іначай, як звычайнаю хлусьнёю, бо ў названай кнізе а. Вэлыкый спэцыяльна зьвяртае ўвагу на некаторыя пафальшаваныя

мейсцы лісту і між імі якраз на той сказ, якім карыстаўся С. Грынеў(1).

Гэта толькі дробны прыклад, як расейская прапаганда і фальшаваньне з мэтаю агідзіць нашу мінуўшчыну, пранікла на староннкі прэсы, якая мае на мэце сеяць любоў да роднага. Падобных прыкладаў ёсьць нязьлічаная колькасьць.

Чужацкая прапаганда мела выразную сыстэму ў супрацьбеларускай дзейнсьці. Каб вынарадавіць беларусаў, перш-на-перш неабходна іх адчужыць ад усяго роднага, каб «ня нашай наша краіна нам сталась» і за гэта, каб прысабечыць тую краіну «ужо лет сотні Масква і Варшава торг груганавы вядуць між сабой». Іхняя дзейнасьць не аставалася бяз вынікаў. Не дарма Янка Купала перад вайною адзываўся з горыччу ў сэрцы: Скора сын бацька, а бацька сыночка

Не распазнаюць адзін аднаго;
Дзеці чужацкія корміць ўжо дочка,
Маці працуе на злыдня свайго.

І гэта якраз было вынікам вяковае прапаганды «рускае» і «польскае» вераў; было-б злочынам з нашага боку, каб атакі на душу беларускага народу пакінуць неадбітымі.

## «РУСКАЯ ВЕРА»

Калісь, у шэрую мінуўшчыну было звычайным зьявішчам, што кожны народ меў адно веравызнаньне і таму няраз атоесамлівалася веравызнаньне з народнасьцю. Здараліся выпадкі, што народы трацілі сваю незалежнасьць, але ў паняволеньні далей трымаліся свайго веравызнаньня і яно для іх станавілася азнакаю апрычонацьці. Тады зьмена веравызнаньня раўнялася зьмене нацыянальнасьці. Хрысціянства ўнесла паважную зьмену ў рэлігійна-нацыянальныя адносіны, бо яно прызначана для ўсіх людзей і ўсіх народаў. Пасылаючы апосталаў Хрыстос паслаў ім Сьвятога Духа і дар гаварыць на розных мовах(2). Гэтым Бог выразна выказаў, што хрысьціянства ня мае на мэце зьнішчаць нацыянальную апрычонасьць ніводнага народу.

Нажаль няма на сьвеце такіх сьвятасьцяў, якіх-бы людзі не надужывалі. Так няраз здаралася і з хрысціянствам: валадары некаторых хрысціянскіх краінаў выкарыстоўвалі рэлігію да зусім нерэлігійных мэтаў.

Калі ў Эўропе ад XVI ст. зьявілася магутная нацыянальная плынь, дык амаль ўва ўсіх краінах патварыліся нацыянальныя Цэрквы. Тады ў Маскоўскім княстве нацыянальнаю Царквою сталася Праваслаўная Царква з асаблівао азнакаю моцнае перавагі нацыяналізму над рэлігійнасьцю. Тады расейская Царква значна ўзрасла, але слушна кажа расейскі гісторык: «Нацыянальнае узьвялічэньне рускае Царквы было дзелам больш палітычным чым духовым»(3). Ад таго часу Царква ў Расеі «паставіла сябе на службу дзяржаве, перастала быць «сумленьнем» дзяржавы, каб ператварыцца ў апору і амаль інструман Маскоўскага імпэрыялізму»(4).

Шмат хто забываецца, або і зусім ня ведае, што Маскоўскае княства распачало свой імпэрыялістычны паход на Захад пад прыкрыцьцём рэлігійных матываў. Першаю ахвяраю таго паходу сталася «единовѣрная Бѣлоруссія» нібы якраз таму, што была адзінавернаю з Маскоўшчынаю. Тады маскоўскія цары абвяшчалі войны, ламалі мірныя дагаворы, прымалі да сябе з Вялікага Княства Літоўскага апалых магнатаў і рабілі ўсякія подступы ў імя «абароны праваслаўнае веры на Белай Русі».

Да якое ступені маскоўскія цары выкарыстоўвалі праваслаўную рэлігію, каб мяшацца ў нутраныя справы беларускае дзяржавы, можа сьведчыць карэспандэнцыя князёўны Алены, жонкі вял. кн. Аляксандра, з яе родным бацькам маскоўскім царом Іванам III. Вось вынятак з ліста Алены, пісанага ў 1503 г. Успомніўшы на пачатку, што трымаецца моцна праваслаўнае веры і ходзіць у цэркви, яна кажа: «Мой кароль, яго маці, браты... і ўся зямля — усе спадзяваліся, што са мною ў Літву прыйдзе ўсё добрае, вечны мір, любоў кроўная, дружба, помач на паганства; а цяпер бачаць, што са мною толькі ліха да іх прыйшло; вайна, войска, узяцьце і спаленьне гарадоў і валасьцёў, разьліцьцё крыві хрысьціянскае; жоны ўдовамі, дзеці сіратамі, палон, крык, плач, галошаньне на ўзрыд! Такое спачуваньне і любоў твая ка мне! Па ўсім сьвеце паганства радуецца, а хрысьціянскія валадары ня могуць надзівіцца і цяжка жалуюцца: ад веку, кажуць, ня чувана, каб бацька сваім дзецям бяду прычыняў. Калі валадар, татуля мой, Бог табе не палажыў мяне, сваю дачку жалаваць, дык зачым мяне з зямлі свае выпусьціў і за такога-ж (як сам) брата свайго выдаў? Тады і людзі дзеля мяне ня гінулі-б і кроў хрысьціянская ня лілася-б. Лепш-бы мне пад тваімі нагамі ў тваёй зямлі памерці, чым такую славу аб сабе чуць; усе адно толькі і гавораць: дзеля таго ён аддаў сваю дачку ў Літву, каб тым лепш землю і людзей выглядзець...» (5).

І што адказаў цар на той ліст дочкі, пісаны горкімі сьлязамі і крывёю? Апраўдваўся толькі рэлігійнымі меркаваньнямі: «Гэтая справа, дачка, сталася не праз цябе... я спадзяваўся, што як ты

---

1. P. Athanasius Welykyj OSBM, S. Josaphat hieromartyr. Documenta Romana beatificationis et canonisationis. Vol. 1. Roma 1952. star. XXI.

2. Дзеян. Апост. 2, 6-12.

3. П. Милюковъ, Очерки по исторіи русской культуры. Парижъ 1931. Том 2. ч. 1. стар. 27.

4. Прот. А. Шмеман, Исторический путь Православия. Нью Йорк 1954. стар. 351.

5. С. М. Соловьевъ, Исторія Россіи съ древнѣйшихъ временъ. С. Петербургъ 1895. Кн. 1. стар. 1473.

прыйдзеш к яму (вял. кн. Аляксандру) дык з табою ўсёй Русі, грэчаскаму закону будзе ўмацаваньне» (6).

Амаль праз усё XVI стаг. адно з найбольш крывавых стагодзьдзяў на Беларусі, калі Маскоўскае Княства разрасталася на Захад, праваслаўная вера ў вуснах цароў апраўдвала ўсякія іх мерапрыемствы супраць Беларусі.

Падобна і пасяганьні аднosна іншых краінаў у Маскве прыкрывалі царкоўнымі матывамі. Напрыклад Земскі Сабор у Маскве, які 1-га красавіка 1653 г. пастанавіў прыеднаць Украіну да Маскоўшчыны, апраўдваў сваю пастанову перадусім тым, што цар прыймае украінскія гарады і землі «пад сваю дзяржаўную высокую руку дзеля праваслаўнае хрысціянскае веры і сьвятых божых цэркваў, таму што паны-рада і ўся Рэчы-Паспалітая на праваслаўную веру і на сьвятыя божыя цэрквы паўсталі і хочуць іх вынішчыць»(7).

Уласьціва нельга было-б выказваць ніякага дакору расейскай Праваслаўнай Царкве затое, што дбала пра сваю нацыянальную справу, бо-ж гэткім ёсьць абавязак кожнага рэлігійнага дзеяча, як грамадзяніна свае дзяржавы, але справа ў тым, што ад XVI ст. у расейскай Царкве нацыянальны элемэнт ня толькі пераважае над рэлігійным, але нават стаецца якоюсьці «догмаю воры». Калі ў 1708 г. украінскі гэтман Іван Мазэпа, пакінуўшы расейскага цара Пятра, перайшоў на бок швэдаў, дык за гэта па загаду цара расейскія ерархі ўрачыста выклялі (анатэмізавалі) Мазэпу дня 12 лістапада 1708 г. як нейкага страшнага гэрэтыка, і гэтае прaкляцьце не скасавана да сёньня. І да сёньня палітычныя правіны расейская Царква выклінае як гэрэзіі, ідучы старым шляхам палітыканства. Зусім на ўзор выкляцьця Мазэпы савецкі праваслаўны Сабор у Маскве 8. IX. 1943 г. прыняў між іншым такую пастанову: «усякі, што вінаваты ў зрадзе ў агульнацаркоўнай справе і перайшоў на бок фашызму, як праціўнік Гасподняга крыжа, мае лічыцца адлучаным, а япіскап, або клірык пазбаўленым сана»(8).

У гісторыі ведама нямала выпадкаў, калі хрысціянскія народы заваёўвалі няхрысьціянскія народы, каб там шырыць хрысціянства, а Расея рабіла наадварот, яна выкарыстоўвала праваслаўнае хрысьціянства, каб заваёўваць адзінаверныя праваслаўныя народы і вынішчаць там самабытную культуру, а потым на руінах шырыць русыфікацыю — як гэта сталася на Беларусі і Украіне.

Акцыя русыфікацыі Беларусі распачалася адразу пасьля таго, як Беларусь трапіла пад уладу Расеі падчас разбораў Рэчыпаспалітае. Галоўную ролю ў гэтай акцыі было даручана выканаць Праваслаўнай Царкве. Першы Менскі праваслаўны япіскап Віктар Садкоўскі, сабраўшы ў Слуцку мяйсцовае беларускае праваслаўнае духавенства, абрушыўся на іх беларускую мову, дамагаючыся, каб яны гаварылі толькі парасейску, пагражаючы пры тым: «Я вас скорэню, зьнішчу, што-б і языка не было вашего проклятого літовского і вас самих; я вас у зсылкі порозсылаю, альбо ў солдаты поотдаю, а своіх з закордону (гэта значыць з Расеі) понавожу» (9).

Пагроза Садкаўскага ня была пустою, царыца Кацярына II хутка пасьля першага падзелу Рэчыпаспалітае пасылала на занятыя абшары праваслаўнае духавества з глыбіні Расеі і з Смаленшчыны, але таму, што яны і умыслова і духова стаялі шмат ніжэй за мяйсцовае беларускае духавества, а так-жа дзеля прывязаньня да Каталіцкае Царквы усх. абраду, дык вернікі іх байкатавалі. Для дакладнага азнаямленьня з гэтым станам рэчаў, наступнік Кацярыны II Паўло І дэлегаваў Менскага губэрнатара З. Корнеева, і той, об'ехаўшы сваю губэрнію, пісаў цару 6 ліпеня 1797 г. «...Прысланыя з Смаленскае епархіі (сьвятары) ня здольныя да выконваньня свае годнасьці і да ўтрымоўваньня добрых адносінаў з людзьмі... яны сталіся ненавіснымі ў народзе» (10). А калішняя і сучасная расейская прапаганда расьпісваецца, што яна несла на Беларусь культуру.

Як характэрная азнака самабытнасьці беларускага народу ў рэлігійным жыцьці быў каталіцызм усходняга славянскага абраду (Вунія), гэта была непераможная перашкода для русыфікацыі, і вось на гэтую перашкоду расейцы накіравалі свой наймацнейшы наступ. Дакладней аб гэтым будзе гутарка на іншым мейсцы, але тут трэба сьцьвердзіць іншы прыкры факт: Расейскі націск насільнага касаваньня Вуніі, для правядзеньня пасьля русыфікацыі, выклікаў у народзе зусім адваротнае зьявішча — узмоцненую хвалю паляанізацыі. Каб ня трапіць да расейскіх бацюшкаў, у шматлікіх вуніяцкіх парахвіях, пачаўся рух пераходу у лацінскі абрад з маніфэстацыйным прыйманьнем польскасьці, каб быць якнайболыш непадобнымі ў нічым да расейцаў. Подобнае зьявішча паўтарылася на Беларусі ў 1945 г. калі беларусы каталікі запісваліся палякамі, каб выехаць у Польшчу на «адзысканыя землі», а ў Нямеччыне ў лягчрах Д. П. так-жа тварылася нешта падобнае, каб ня трапіць «на родіну».

---

6. Там-жа стар. 1477.

7. Воссоединение Украины с Россией. Документы и материалы. . Москва 1954. Том III. стар. 413.

8. Патриарх Сергей и его духовное наследство. Москва 1947. стар. 45.

9. Eugen Sakowicz, Cerkiew Prawosławna w Polsce podczas Wielkiego Sejmu 1788-1792. («Prawosławne Teologiczne Rozprawy») Warszawa 1935, star. 79. «Калосьсе» Нр. 2(11) Вільня 1938, стар. 110.

10. «Русскій Архивъ» Нр. 9. Москва 1868, стар. 1359; Wl. Wielhorski, Litwini, Białorusini i Polacy w dziejach kultury W. Ks. Litewskiego. London 1951, star. 60.

Праўда на пачатку XIX ст. Вунія ў радох свае ерархіі мела нямала палякаў і спалянізаваных беларусаў, але вясковае духавенства было пераважна беларускім і карысталася беларускаю мовою ў штодзенным жыцьці і ў казаньнях. Талеруючы польскую мову ў Каталіцкай Царкве, з беларускаю моваю расейцы ніяк не маглі зьмірыцца, таму і ўплянована рашучы наступ супраць каталіцызму ўсходняга абраду (Вуніі) і праведзена яго з усёю брутальнасьцю, якою азначаўся тагачасны царскі рэжым.

Пасьля скасаваньня Вуніі ў 1839 г. русыфікацыйны наступ праз Праваслаўную Царкву ўзмацняўся з дня-на-дзень. У 1840 г. было забаронена гаварыць казаньні пабеларуску і япіскапы пачалі вымагаць ад падуладнага духавенства, каб яны нават у прыватным жыцьці карысталіся толькі расейскаю моваю. Менскі яп. Міхаіл Галубовіч (1848-63) дакараў сваіх сьвятароў і асабліва іхных жонак за тое, што гавораць моваю народу, а не парасейску і налягаў, каб хутчэй навучыліся расейскае мовы і давалі ў сэтым «прыклад сваім парахвіянам» (11).

Адносна сіламоц пераведзеных з каталіцызму ўсходняга абраду на праваслаўе было выдана спэцыяльнае заканадаўства, якое сурова забараняла паварот у каталіцызм. Першая такая забарона была выдана яшчэ 22. IV. 1794 г. а потым 10. IX. 1830 г. яна была аднаўлена і ўзмоцнена, (12) ды ўвайшла ў карны кодэкс Расейскае Імпэрыі § 187. Гэтую забарону паўтаралі пры розных нагодах высокія царскія ўрадоўцы і нават цары асабіста. Напрыклад цар Аляксандар II, адведваючы Вільню 13(25) чэрвеня 1867 г., выклікаўшы спаміж прадстаўнікоў беларускіх сялян тых, якіх ня так даўно перацягнена з каталіцызму на праваслаўе, казаў ім: «Я вельмі рад, што вас бачу праваслаўнымі. Я ўпэўнены, што вы перайшлі да старое веры свайго краю з перакананьня і шчыра. Аднак раз стаўшыся праваслаўнымі, ведайце, што я не дазволю і не дапушчу, каб вы вярнуліся да каталіцызму. Чуеце? Я паўтараю, што радуюся, бачучы вас праваслаўнымі» (13). Сапраўды «шчырая» гутарка да тых, што перайшлі «з перакананьня і шчыра».

Калі на Беларусі зьявіўся Мураўёў з неабмежаванымі правамі, дык для русыфікацыі Беларусі створана ў Вільні «Камісію для русыфікацыі Заходняга Краю». У тую Камісію пісаў куратар Карнілаў 3. VIII. 1866 г.: «Калі хочаце, каб «рускі» народ з заходніх правінцыяў меў цягу да ўсходу, распаўсюджвайце праваслаўе» (14). Такая думка была ня толькі Карнілава, але агулам усіх панасыланых на Беларусь царскіх чыноўнікаў, дык ня дзіва, што на Праваслаўную Царкву ўскладалася штораз больш заданьняў у русыфікацыйнай працы. Калі обэр-пракурорам Сьвяцэйшага Сыноду стаўся Победоносцев (1880-1905) дык насільная русыфікацыя праз Праваслаўную Царкву даходзіла да нячуваных разьмераў. Расейскі гісторык Зарнов кажа, што Пабедоносцев прыклад да гвалтоўнае русыфікацыі ўзяў з нямецкае ідэі дэнацыяналізацыі славянаў. Але адкуль-бы ён ня ўзяў прыкладу, у тых вобласьцях Расейскае Імпэрыі, дзе насельніцтва ня было праваслаўным, Праваслаўная Царква сталася «сымбалем русыфікацыі і крыніцаю прасьледаваньня языка і веры мяйсцовага насельніцтва» (15).

Перш было ўспомнена, што русыфікацыю заўсёды папераджала руйнацкая праца. Адным з галоўных пунктаў руйнацкае дзейнасьці было вынішчэньне беларускае Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду, а ў далейшым руйнацкая дзейнасьць абымала ўсе галіны беларускага культурнага жыцьця. У даным выпадку нас перадусім цікавіць тая дзейнасьць, якая праводзілася праз расейскую Праваслаўную Царкву і ў імя «рускае веры». Выкарыстоўваючы барацьбу супраць каталіцызму ўсх. абраду (Вуніі) расейцы і іх прыслужнікі з асаблівым жарам накінуліся на беларускую старсьвеччыну. **Старыя беларускія кнігі** забіраліся з усіх парахвіяў і паліліся. Праўда прыклады паленьня кнігаў на Беларусі здараліся ўжо ў XVI ст., але тады нішчыліся пратэстанцкія выданьні, якія пераважна былі польскімі, дык і шкода ад гэтага для беларускае культуры была ўсяго патолькі балючая, пакольки гэты прэтэкст надужываўся для нішчэньня беларускіх кнігаў. Затое ў XIX ст. вынішчаліся толькі беларускія кнігі так літургічныя-вуніяцкія, як і іншыя, якраз таму, што яны былі беларускія, бо яны былі сьведкамі беларускае самабытнасьці.

Віленскі мітрапаліт Іосіф Семашко (1839-1868) галоўны актывіст у зьнішчэньні Вуніі, дакладна апісвае ў сваіх «Запісках», як праводзілася акцыя вышукваньня і вынішчаньня старых беларускіх кнігаў. Ён кажа, што толькі за тры гады было сабрана і спалена па яго загаду больш 2.000 кнігаў (16). На мейсца спаленых сьвятаром прысылаліся кнігі маскоўскага выданьня.

Вынішчальную работу Семашкі прадаўжалі

---

11. Adrien Boudou S. J., Le Saint-Siège et la Russie. Tome 2. Paris 1925. s. 353.

12. Полное собраніе законовъ Россійской имперіи. С. Петербургъ 1831 Том. V. отд. 2.. стар. 27. паз. 9908. «О воспрещеніи Духовенству Римско-Католическаго исповеданія обращать людей Православнаго исповеданія въ свою вѣру». Там-жа паданы і кары за гэта.

13. С. С. Татищевъ. Императоръ Александръ II. Его жизнь и царстованіе. С. Петербургъ 1903. Том 2. стар. 24.

14. A. Boudou. op. cit. Star, 362,

15. Николай Зарнов Вселенская Церков и Русское Православие. Париж 1952. стар. 213-214.

16. Записки Иосифа митрополита Литовскаго. С. Петербургъ 1883. Том. I. А так-жа: «Крывіч» Нр. 2(8) Коўня 1924. стар. 32.

яго наступнікі ў Вільні і ў іншых беларускіх праваслаўных епархіях. Япіскапы Менскі і Віцебскі яшчэ ў 1860 г. выдавалі ўказы, каб паліць усе старыя вуніяцкія кнігі, якія дзе да таго часу захаваліся. Гэтую руйнацкую дзейнасьць праваслаўнае духавенства выконвала паводля тых самых дырэктываў, якія царская ўлада выдала сваім урадоўцам у 1846 г. (17). Каб каму не здавалася, што вынішчаліся толькі кнігі рэлігійнага зьместу, трэба з націскам зазначыць, што вынішчаліся агулам усе старыя беларускія кнігі ўва ўсіх кнігасховішчах на Беларусі. Дакладнейшыя весткі аб гэтай руйнацкай дзейнасьці падае ў адным з сваіх артыкулаў Шлюбскі (18).

Адначасна з старымі кнігамі да канца XIX ст. палена старыя памяткі **беларускага мастацтва.** Да глыбіны праймаючыя абразы зьнішчэньня старых беларускіх памятак царкоўнага мастацтва падае навочы сьведак некаторых такіх учынкаў у Полаччыне і Віцебшчыне П. Красавіцкі. Стэрарызаваныя расейскімі ўладамі і расейскаю ерархію самыя сьвятары нішчылі старую насьценную іконапісь, старыя іконастасы, кнігі, рызы і пад. толькі на тое, каб на іх мейсца паставіць штосьці згоднае з «маскоўскім стылем». Скульптурныя творы нішчыліся поўнасьцю, бо яны быццам былі «вышэйшым пунктам праяўленьня каталіцкага духа» (19), супраць якога вялася няўмольная вайна на Беларусі.



**Царква сьв. Спаса пры Полацкім Спаса-Еўфрасінінскім манастыры. Від у 1832 г.**



**Тая-ж царква пасьля перабудовы. Франтальны від у 1903 г.**

Асабліва вызначыўся ў нішчэньні старых беларускіх рэлігійных памятак яп. Савва Тіхоміров падчас свае бытнасьці ў Полацку. Беларусы маюць поўнае права назваць яго вандалам ў расе. Успомнены вышэй Красавіцкі характэрызуе яго гэтак: «Нямала памятак старасьвеччыны і мастацтва было зьнішчана і скалечана. Але зло спрычыненае прэосв. Савваю мяйсцовай царкоўнай старасьвеччыне гэтым ня вычэрпваецца, што было зроблена ім беспасрэдна і паводля яго распараджэньня для дагоджаньня яму падчас ягонага нядоўгага прабываньня на Полацкім пасадзе (1866-74). Больш глыбокае зло, якое дае сябе адчуваць да цяпер, гэта дух **пагарды** да роднае старасьвеччыны і дух вузкага **фанатызму,** які ён унёс у асяродзьдзе мяйсцовага духавенства ды некаторае часткі вернікаў» (20). Зрэштаю сам яп. Савва дае аб сабе самым і аб сваіх учынках на Беларусі нядвузначнае сьведчаньне ў сваёй аўтабіяграфіі (21).

**Будаўніцтва сьвятыняў** на Беларусі так-жа адчула на сабе моцны расейскі ўплыў. Шмат прыкладаў перарабліваньня цэркваў і сабораў падае ўспомнены вышэй Красавіцкі. Часткава дапаўняе і выясьняе прычыны перарабліваньня А. Сапуноў. Ён цьвердзіць, што афіцыяльна перараблялі цэрквы, каб «прыдаць ім стары від» (22). Але сам-жа ён падае прыклады, якія выразна пярэчаць гэтаму цьверджаньню. Ды як магчыма ўстанавіць старую форму напрыклад Сафійскага сабору ў Полацку з XI ст., які перарабляўся дзясяткі ра-

17. Руководство къ изысканію древностей въ Западной Руси. «Виленскія Губернскія Вѣдомости» 1846 г. Нр. 17-19.

18. Ал. Шлюбскі, Доля кнігасховішчаў і архіваў. «Крывіч» Нр. 1(9). Коўня 1925. стар. 18-68.

19. П. М. Красовицкій, Памятники церковной старины въ Витебской губерніи и ихъ охраненіе. «Полоцко-витебская Старина». Кн. 1. Витебскъ 1911. с. 44.

20. П. М. Красовицкій. Назв. твор. стар. 47.

21. Хроника моей жизни. Автобиографическія записки Высокопреосвященного Саввы, Архиепископа Тверскаго. Москва 1876 і дал. 6 томаў.

22. А. Сапуновъ, Памятники временъ древних и новейшихъ въ Витебской губерніи. Витебскъ 1903. стар. 16.





**Дабравешчанская царква ў Віцебску.**

**Від у 1833 г.** **Від перад 1914 г.**

зоў? (23). Вельмі характэрна, што да «старых відаў» залічана рэчы, якія перш на Беларусі амаль ня сустракаліся, напрыклад цыбулястыя купалы і крыжы з касавінаю на купалах замест старабеларускіх крыжоў з зяньнем. Неабходна зацеміць, што расейскія формы стараліся прыдаць асабліва старэйшым беларускім сьвятыням, як гэта відаць з залучаных тут ілюстрацыяў.

Яшчэ адным важным дзейнікам русыфікацыі на Беларусі былі **школы.** Расейскі ўрад агулам не дазваляў адкрываньня беларускіх школаў, а калі дзе якая адчынялася прыватна, як гэта зрабіў у Крошыне, кс. Магнушэўскі, дык расейскія ўлады, як толькі нешта падобнае выяўлялі заразжа закрывалі. Да таго агулам на Беларусі школьніцтва разьвівалася вельмі паволі. Аднак Праваслаўная Царква мела паважны ўплыў на пашырэньне школьніцтва ад 1884 г. На агульны лік 4000 пачаткавых школаў, якія былі на Беларусі ў 1914 г. амаль палавіна была царкоўна-прыхадзкімі, але ўсе яны былі выключна расейскімі, а па духу моцна русыфікатарскімі. Гэтакімі-ж былі і Духоўныя Сэмінарыі (у: Менску, Віцебску і Вільні).

Беларускае праваслаўнае прэсы да 1905 г. агулам не магло быць дзеля агульнае забароны беларускага друку, але і пасьля скасаваньня гэтае забароны яна не зьяўлялася аж да 1925 г. дзеля моцнае русыфікатарскае плыні ў радох духавенства і асабліва ў ерархаў.

Агулам прыходзіцца сьцьвердзіць, што ўва ўсіх русыфікатарскіх мерапрыемствах расейскага ўраду расейская Праваслаўная Царква ня толькі нічога не рабіла ў абароне беларусаў і іншых сваіх адзінаверных нерасейскіх вернікаў, але наадварот праводзіла ўсе русыфікатарскія мерапрыемствы, як сваю найгалаўнейшую місію.

### Між лютаўскаю і кастрычніцкаю рэвалюцыямі

Некаторае злагоджаньне ў расейскай рэлігійнай і нацыянальнай палітыцы было абвешчана ў 1905 г. праз т. зв. Талеранцыйны указ. Аднак у сапраўднасьці гэтая талеранцыя была вельмі абмежаваная. Хоць быў скасаваны закон з 1830 г., што забараняў праваслаўным пераходзіць на каталіцызм, аднак каталіцызм усходняга абраду і далей быў строга забаронены. Дзеля гэтага частка праваслаўных былых вуніятаў, у ліку каля 230.000 чалавек на Віленшчыне, карыстаючы з талеранцыйнага ўказу, але ня маючы іншага выбару, перайшла ў каталіцызм лацінскага абраду. Можна шмат пісаць аб тым, як на практыцы выглядала расейская талеранцыя, але думаю, што больш коратка і больш ясна можа сказаць аб гэтым карэспандэнцыя якогась Падарожнага з Зэльвы Горадзенскае губ., зьмешчаны ў «Нашай Ніве» ў 1907 г.: «З даўных пор тут яшчэ стаіць недакончаны касьцёл, каторы не дазволілі збудаваць. Апошнія гады, як пашла свабода, тут багата уніятаў прыняло каталіцкаю веру. Падавалі просьбу, каб касьцёл скончыць, але гэтага права ім не далі. Тымчасам праваслаўны сьвяшчэньнік пастараўся аб разрашэньне той касьцёл перарабіць на царкву». Далей апавядаецца, як каталікі пратэставалі

23. А. Сапуновъ, Полоцкій Софійскій Соборъ. Витебскъ 1888.

супраць перарабленьня касьцёла, тады прыехаў прыстаў з стражнікамі і разагналі пратэстуючых, страляючы ў натаўп. 6 чалавек было застрэлена на мейсцы, іншых пакаралі рознымі карамі (24).

Увесь час русыфікацыйныя мерапрыемсты расейскага ўраду пляналіся толькі так далёка, як далёкі засяг мела іхняя Праваслаўная Царква. Каталіцкая Царква на Беларусі, пасьля некаторых спробаў увядзеньня расейскае мовы ў 1869-70 гадох, была і далей астаўлена ў руках палякаў для палянізацыі беларусаў. Рэлігія ў вачох расейскіх удараўцаў была адзінаю азнакаю нацыянальнае прыналежнасьці. Пры выбарах у «Государственную Думу» ў 1909 г. і пры апрацаваньні закону аб земствах у заходніх губэрнях, расейскі ўрад усіх беларусаў-каталікоў запісаў палякамі, прылучыўшы іх да польскае курыі, а такія-ж беларусы праваслаўнае веры былі аб'яўлены расейцамі (25).

Аж да самае кастрычніцкае рэвалюцыі 1917 г. расейская Прав. Царква ў адносінах да нерасейскіх народаў ні ў чым не зьмянілася і нават ня думала зьмяняць свае русыфікатарскае дзейнасьці. Пасьля рэвалюцыі 1905 г. можна было пачуць больш або менш сьмелыя галасы ерархаў аб розных неабходных рэформах у Царкве, аб неабходнасьці склікаsuccessiveньня Сабору, але аб зьмене адносінаў у Царквы да нерасейскіх народаў ня было і гутаркі.

Магчыма ў тым і ёсьць найглыбейшая прычына бальшавіцкае рэвалюцыі, што расейскія Царква, займаючыся палітыканствам на працягу вякоў, да тае ступені занядбала сваю ўласьцівую рэлігійную працу, што духовае жыцьцё ў народзе замерла і пачаўся расклад. Не дарма адзін з расейскіх ерархаў пісаў яшчэ ў 1899 г. аб расейскім народзе: «Гэта ўжо не народ, а гніючы труп, які сваё гніцьцё ўважае за жыцьцё, а на ім і ў ім жывуць толькі краты, рабакі і агідная жамяра» (26). Страшныя вынікі таго гніеньня сёньня бачыць адчуваць і самыя расейцы і іх суседзі, а ў тым ліку і беларусы.

Не зважаючы на выразныя азнакі раскладу ў кіруючых расейскіх кругох нічога ня было зроблена для аздараўленьня рэлігійнага жыцьця; яны не зважаючы на ўнутраны расклад здавальняліся бязглуздым самахвальствам, называючы сябе горда «Сьвятою Руссю». І вось ад 1917 г. тая «Сьвятая Русь» сталася бяжбожным пеклам.

**Ад кастрычніцкае рэвалюцыі да нашых дзён**

Пасьля кастрычніцкае рэвалюцыі 1917 г. пачуліся шматлікія галасы, якія асуджалі расейскую Царкву за яе лішне моцнае злучэньне з расейскаю імпэрыялістычнаю палітыкаю і некаторыя ў гэтым бачылі яе галоўную прычыну аслабленьня. Мілюкоў напрыклад кажа: «Слабасьць унутранага духовага жыцьця вернікаў і душпастыраў у значнай ступені аб'ясьняецца палітычнаю ролю расейскае пануючае Царквы» (27). Больш вострыя галасы асуджэньня пачуліся з асяродзьдзя жывацаркоўнікаў (28), праўда яны шмат патуралі бальшавіцкай прапагандзе, аднак так-жа шмат казалі горкае праўды. Толькі ўсе тыя галасы ні ў чым не зьмянілі на лепшае ролі расейскае Царквы. Яна і далей, церпячы сама страшэнны праСьлед ад бальшавікоў, гнобіла і гнобіць рэлігійныя пачуцьці і аспірацыі нерасейскіх народаў.

Стараньні украінцаў аб аўтакефаліі ў 1919 г. стрэнуліся з адмоваю ў Маскоўскага Патрыярха. На стараньні старшыні Рады БНР адносна беларусізацыі Праваслаўнае Царквы на Беларусі ў 1922 г. патрыярх Ціхан акдазаў, што дазваляе ўжываць беларускую мову ў казаньнях і катэхізацыі, калі дзе будзе магчыма, дык не пярэчыць выданьню рэлігійнае літаратуры на беларускай мове, але абсадзіць япіскапскія пасады беларусамі адмовіўся (29). Калі-ж потым у Менску 1927 г. узмоцнілася стараньні аб утварэньні Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, дык мітр. Сяргей, тагачасны галава расейскае Царквы на толькі варожа паставіўся да праекту аўтакефаліі, што з помаччу ГПУ заклікаў у Маскву Менскага мітр. Мэльхісэдэка і там яго стэрарызаваўшы, змусіў зрачыся нават тытулу мітрапаліта і паслаў у Краснадар, але туды ён не даехаў з прычыны неспадзеванае сьмерці. Відавочна, што становішча міт. Сяргея падабалася расейскаму духавенсту; аб гэтым з злосным задаволеньнем пісаў адзін з вельмі актыўных расейскіх сьвятароў: «Беларуская аўтакефалія, абвешчаная ў самай Расеі і падтрыманая ГПУ, так і не знайшла прызнаньня патрыярха і яе «мітрапаліт» быў змушаны ў імя царкоўнае дысцыпліны зьняць з сябе незаконныя досьпехі» (30).

У сучасны мамэнт на Беларусі адзінаю легальнаю «Царквою» ёсьць савецкая «Царква», якая афіцыяльна ўсюды называецца «Расейскаю Праваслаўнаю Царквою» і якая на стары лад уважае адным з сваіх галоўных заданьняў поруч са-

---

24. «Наша Ніва» Нр. 2, 13(26) студня 1907 г. «З Беларусі і Літвы».

25. А. Навіна. На дарозе да новага жыцьця. «Маладая Беларусь» Сшытак 1. Пецярбург 1912, стар. 31.

26. Н. Д. Тальбергъ, Святая Русь. Парижъ 1922 стар. 127.

27. П. Милюковъ, Очерки по исторіи русской культури. Парижъ 1931. Том. 2. Часть 1. стар. 174.

28. Глядзі напр.: Б. В. Титлинов, Православие на службе самодержавия в русском государстве. Ленинград 1924.; Прот. А. Введенский, Церковь и государство. Москва 1923.

29. Пісьмо Патрыярха Тіхона Старшыні Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі. «Беларускі Сьцяг». Коўня 1922. Нр. 1. стар. 27-28.

30. Михаилъ Священникъ, Положеніе Царкви въ Совѣтской Россіи. Іерусалимъ 1931. стар. 61.

вецкае прапаганды шырыць русыфікацыю на Беларусі. Урадавая мова, казаньні, навука ў Жыровіцкай сэмінарыі — вядуцца выключна парасейску. На беларускай мове не выдаецца абсалютна ніякае рэлігійнае літаратуры.

Тыя, што глыбей задумоўваюцца над мінулым і сучасным станам расейскага праваславія, прыходзяць да перакананьня, што яно мае ў сабе штосьці хваробліве. Вось што кажа аб гэтым адзін з выкладчыкаў гісторыі Царквы: «У тэорыі цяпер часта чуваць галасы расейскіх дзеячоў, якія ганяць зьмешваньне расейскасьці з праваслаўем, аднак мусяць прызнаць, што: «Расейскае Праваслаўе вельмі часта супрацьстаўлялі якомусьці «другому», грэцкаму, ці ўсходняму праваслаўю. Расейскі «мэсіянізм» часам проста зроўніваў Праваслаўе з Расеяй, забываючыся аб яго бізантыйскім паходжаньні і аб «сьпячым Усходзе» (гэтую нацыянальную залюбленасьць у сябе яшчэ зусім нядаўна пакойны С. Франк назваў хранічнаю хваробаю расейскае сьведамасьці» (31). Як глыбока праўдзівыя вышэйсказаныя словы а. Шмемана могуць сьведчыць зусім сьвежыя падзеі. Калі ў 1942 г. бальшавікі крыху зьмянілі свае адносіны да праваслаўя, дык расейскія ерархі, забываючыся аб усім іншым, у першую чаргу загаварылі аб праваддырстве над іншымі. У першай кнізе датычна рэлігіі, якая тады зьявілася ў Маскве, пісалася, што расейскую Царкву сымбалізуе сабор Васілія Блажэннага ў Маскве, што яго 30 рознастылёвых купалаў — гэта сымбалі розных народаў, а пасярэдзіне найбольшы купал — расейскі. І да гэтага дадае: «Ясная задума гэтае тэніяльнае пабудовы. Русь павінна аб'яднаць рознаплямённыя народы і быць іх праварыдом да неба» (32).

Ня лішне будзе ўспомніць, што і на эміграцыі ня спыняецца імпэрыялістычнае палітыканства расейскага духавенства адносна іншых народаў, каб верхаводзіць імі. Гэтае жаданьне верхаводства і ў лоне самых расейскіх ерархаў вытварыла на эміграцыі аж 5 юрысдыкцыяў, ў тым ліку і адну «патрыярхію» Іосіфа Клімовіча. Характэрна, што кожная з гэтых юрысдыкцыяў мае прэтэнзіі адносна «душпастырства» над беларусамі: Зарубежны Сынод прыняў да сябе калішніх япіскапаў з Беларусі і цяпер прызначыў аднаго япіскапа займацца беларускімі рэлігійнымі справамі; Экзархат Бізантыйскага Патрыярха мае нават 2 беларускія парахвіі; Савецкі Экзархат заклікае беларусаў проста ўлівацца ў савецкія парахвіі; Амэрыканская мітраполія ўласьціва найбольш утрымоўваецца з нясьведамых беларусаў, што выэміграваі перад 1914 г.

31. Прот. А. Шмеман, Исторический путь Православия. Нью Йорк 1954. ст. 340.

32. Правда о религии в России. Москва 1942. стар. 59.

## Праваслаўная Царква ў Польшчы

На абшарах, якія былі прызнаны Польшчы Рыскім дагаворам у 1921 г., знайшлася вялікая часьць Беларусі і Украіны з паважным процантам праваслаўнага насельніцтва. У 1931 г. польская статыстыка афіцыяльна падавала лік праваслаўных 3.862.484 чалавекі, з іх 1.599.954 (43,5%) беларусаў (але афіцыяльна дзялілі іх на беларусаў і тутэйшых-паляшукоў), 1.540.062 (41,5%) украінцаў, 498.290 (11%) палякаў, 99.636 (3%) расейцаў і 21.672 (1%) чэхаў (33). Як бачым, процант расейцаў у Польшчы быў вельмі малы, але ўсё кіраўніцва Праваслаўнае Царквы было выключна ў расейскіх руках (34) і старалася прадаўжаць старую русыфікацыйную палітыку. Польскі ўрад не пагаджаўся з такім станам рэчаў, але толькі з тых меркаваньняў, што плянаваў перавесьці палітыку вынарадаўленьня ў свае каляіны і дзеля гэтага ўзяўся энэргічна за ўтварэньне аўтакефаліі.

На прапанову польскага ўраду згадзіўся ў 1921 г. ачоліць Праваслаўную Царкву ў Польшчы калішні Менскі архіяпіскап Юры Ярашэўскі з паходжаньня украінец (ён ад 1919 г. быў на эміграцыі ў Італіі). Калі арх. Юры парабіў першыя крокі ў кірунку аўтакефаліі, а перадусім калі выявіў схільнасьць прызнаць некаторыя правы ў рэлігійным жыцьці украінцам і беларусам, дык расейскае і асабліва зрасейшчанае праваслаўнае духавенства запалала да яго лютаю нянавісьцю. Пры гэтай нагодзе выявілася да якое ступені закаранілася ў радох праваслаўнага духавенства варожасьць да тых, што плянуюць пазбавіць Праваслаўную Царкву яе русыфікатарскае ролі; у прыступе лютасьці архімандрыт Смарагд Латышэнко дня 8 лютага 1923 г. застрэліў з рэвольвэра арх. Юрага у мітрапалічым палацы у Варшаве. Гэты нячуваны ў гісторыі Царквы злочын з рукі манаха выявіў сапраўднае аблічча расейскага «праваслаўнага» духу.

На мейсца арх. Юрага польскі ўрад даручыў кіраўніцтва міт. Дзянісу Валедынскаму, які беззасьцярожна пайшоў па лініі польскага ўраду.

Украінскія парахвіі, зарганізаваныя мацней, дабіліся хоць часткоae прызнаньне украінізацыі ў рэлігійным жыцьці, а беларускія, ня выявіўшы дастатковае настойлівасьці, не атрымалі нічога.

Дзякуючы стараньням польскага ўраду Бізантыйскі патрыярх 13. XI. 1924 г. прызнаў аўтакефалію Праваслаўнай Царкве ў Польшчы. Пасьля ўрачыстага абвешчаньня гэтае аўтакефаліі польскі ўрад павёў актывную працу ў кірунку ператварэньня новае аўтакефальнае царквы ў Поль-

33. The Eastern Church in Poland. London 1942. star. 38.

34. Дмитро Дорошенко, Православна Церква. Берлін 1940. стар. 58.

скую Аўтакефальную Царкву. Расейская прэса залямэнтавала на ўсе лады. Зьявіліся нязьлічаныя артыкулы і нават кніжкі проста хварабліва-нэрвовага зьместу. І характэрна, што ў гэтай пісаніне, якая крычала немым голасам аб прасьледаваньні праваслаўя ў Польшчы, аўтары з нячуванаю грубасьцю запярэчвалі агулам існаваньня беларусаў і украінцаў. Адзін з такіх пісакаў цьвердзіць: «Штучна створана як (нацыянальную) меншасьць «украінскую», а так-жа афіцыяльна адзьдзяляюцца і «беларусы»... «Ім адведзены мейсцы ў сойме, каторымі карыстаюцца пераважна рэнэгаты-інтэлігэнты; беларусы ў вёсках называюць сябе проста «рускімі», сьвяткуюць Дзень Рускае Культуры» (35). Паводля таго-ж аўтара найгоршае прасьледаваньне праваслаўя ў Польшчы палягае на тым, што: «пераіменаваўшы рускіх праваслаўных (мы не гаворым вялікарасейцаў, але рускіх) у «украінскі народ», «беларускі народ», «эміграцкую інтэлігэнцыю» і «расіян» (праз адно С), польская дзяржава ня прызнае і праваслаўнае Царквы расейскаю Царквою» (36).

Лішне было-б разбіраць усю гэтую бязглуздую пісаніну, але як дакумант часу яна мае сваю вымову. У Польшчы сапраўды палажэньне Праваслаўнае Царквы было ненармальным і ў апошніх гадох перад вайною было нямала выпадкаў сапраўднага прасьледаваньня, але ў грунце рэчы, гэта было толькі прадаўжэньне калішняе царскае нацыянальнае палітыкі праз Царкву толькі на польскі лад. І той, хто ўважаў за нармальнае зьвішча «рускае праваславіе», як-жа мог абурацца супраць «польскага праваславія»? І сапраўды, хутка з радоў праваслаўнага духавенства знайшліся ахвотнікі стацца вернымі служкамі палянізацыйнае палітыкі праз Праваслаўную Царкву. Тыя, што баяліся як агню беларусізацыі і украінізацыі рэлігійнага жыцьця чамусьці лёгка пагадзіліся з палянізацыяю. Стаўся сапраўды дзіўны факт: з багаславенства міт. Дзяніса палянізацыйны рух так званых «праваслаўных палякаў» ачоліваў калішні афіцэр царскае арміі, а ад 1933 г. Гродзенскі яп. Савва Советов.

«Польскае праваславіе» ня было толькі якімсьці хімэрным творам, бо і сёньня ў Польшчы ёсьць штосьці падобнае, хоць з расейскім «мітрапалітам» (энкавэдыстам) Макарым Оксіюком на чале, а на эміграцыі і па сёньняшні дзень ёсьць у Лёндане Польская Праваслаўная Царква на чале з яп. Матэушам Семашко і выдаецца польскі праваслаўны часапіс (37). Праўда калісь выдавалася гэткіх часапісаў больш і выдаваліся яны выключна для беларусіў і украінцаў.

35. Александр Попов, Гоненіе на православіе и русских в Польщѣ в XX-м вѣкѣ. Бѣлград 1937. стар. 28.

36. Там-жа, стар. 35.

37. «Głos Prawosławny», Londyn.

**Адносіны да беларускае аўтакефаліі**

Ужо перш успаміналася, як адносіліся ў Маскве да спробаў тварэньня беларускае Аўтакефальнае Царквы ў БССР. Бязумоўна гэта вельмі прыкры для беларусаў факт, што ў Маскве настроены вельмі варожа да беларусаў, але яшчэ больш прыкра, калі прыходзіцца сьцьвердзіць, што нават беларускія праваслаўныя ерархі, якія акунуліся ў расейскім праваслаўным духу, пайшлі так-жа па лініі «рускае веры». Ведама, што ў часе нямецкае акупацыі пад націскам агульнае грамадзкае апініі на саборы ў Менску ў 1942 г. была абвешчана беларуская аўтакефалія, аднак самыя праваслаўныя ерархі практычна нічога не зрабілі для яе ажыцьцяўленьня. Праўда ў часе ваенных дзеяньняў было шмат прычынаў, які ўнемагчымлівалі канчатковае афармленьне аўтакефаліі, але вось пасьля сканчэньня вайны ўся праваслаўная ерархія з Беларусі, што ў большасьці складалася з беларусаў 26. IV. 1946 г. далучылася да Расейскае Зарубежнае Прав. Царквы і апраўдвала гэты крок тым, што ён адзіна правільны (38).

Хутка яшчэ больш выразна выявілася сапраўднае аблічча былых ерархаў з Беларусі. Пад апекаю мітр. Панцялеймана Ражноўскага і дапамогаю арх. Бэнэдыкта Бабкоўскага пачаў выходіць часапіс «Праваслаўны Беларус», які ад 7-га нумару перайшоў на расейскую мову і пачаў агіджваць усё, што роднае і блізкае для кожнага беларуса (39).

Калі 5. VI. 1948 г. было адноўлена ў Констанцы кіраўніцтва Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою, дык атакі супраць беларусаў зьявіліся амаль ува ўсёй расейскай эміграцыйнай прэсе. Нават тыя расейскія праваслаўныя часапісы, якія з правіла ўнікалі нават успаміну аб Беларусі, раптам былі загаварылі на беларускую тэму і, зразумала, у варожым тоне. Напрыклад «Православная Русь» у некаторых супрацьбеларускіх зацемках зьнізілася да ўзроўню бруковых публікацыяў (40).

Не мяшаючыся ў нутраныя справы Праваслаўнае Царквы, нельга не заўважыць, што варожыя адносіны Рас. Заруб. Прав. Царквы да БАПЦ сапраўды дзівосныя. Самая-ж Зарубежная Царква зусім ня мае ніякага кананічнага абаснаваньня, хоць гэтую кананічнасьць стараецца ёй

38. Архіеп. Бэнэдыкт, Палажэньне Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі. «Беларускі Царкоўны Голас» Нр. 1. Тырсгайм 1946. стар. 2-5.

39. Напр. у Нр. 10 ёсьць артыкул: «Далой ненависное знамя «Погоня», да здравствует наше славное белое со св. Георгіем Победоносцем, белорусское знамя!» стар. 19.

40. Як прыклад можа служыць зацемка: «Кривицкая Автокефальная Православная Церков», «Православная Русь» Нр. 1. 1950 г. стар. 11.

знайсьці а. М. Польскі насупраць усякае лёгікі (41). Больш таго, яна асуджана і выклята сваёю-ж мацернаю Маскоўскаю Царквою і то не адзін раз, бо акт асуджаньня, выданы 22. VI. 1934 г. мітр. Сяргеям пазьнейшым патрыярхам, падцьвярдзіў сучасны Маскоўскі патрыярх, прызнаны ўсімі ўсходнімі патрыярхамі. Апошнім часам Ерузалімскі патрыярх загадаў свайму духавенству ня мець ніякіх малітаўных зносін з расейскім зарубежным духавенствам. Кожнаму ясна, што ў гэтай кананічнай гульні з «асуджаньнямі» найважнейшае значэньне маюць палітычныя матывы, аднак фармальна яны ўсёроўна важныя для тых, хто прызнае між сабою нейкую супольнасьць. І вось гэтыя ерархі асуджаныя сваею найвышэйшаю духоўнаю ўладаю скіроўваюць сваю «кананічную атаку» супраць БАПЦ, якая з кананічнага гледзішча стаіць бязумоўна шмат мацней за іх, не зважаючы на сваю колькасную меншасьць.

Празмерны нацыяналізм, ня кажучы ўжо аб шавінізме, ёсьць бязумоўна шкодным зьявішчам, дзеля гэтага ўжо ад даўна ў шматлікіх Цэрквах назіраецца стараньне схрысьціянізаваць нацыяналізм, толькі расейская Царква, так Маскоўскі Патрыярхат як і Зарубежны Сынод працуюць у іншым кірунку: каб прыдаць свайму хрысціянству шавіністычны расейскі дух. Найбольш заўзята працуюць у гэтым кірунку тыя ерархі, якія пераапрануліся ў духоўнаю вопратку з афіцэрскіх мундзіраў. Для прыкладу можна ўспомніць факт, які стаўся летась. Расейскі Флёрыдзкі яп. Нікан (Рклiцкій) апублікаваў у газэце «Нью Ёрк Таймс» заяву, каб амэрыканцы не падтрымоўвалі «нацыянальных сэпаратыстых». І чыталі амэрыканцы заяву «ерарха», але ня ведалі, што пісаў тую заяву схаваны пад архірэйскаю вопраткаю афіцэр артылерыі царскае арміі, які перад вайною скончыў ваенна-юрыдычную акадэмію. Сьвятаром ён стаўся толькі ў 1944 г. ў веку 52 гады, а хіратонію атрымаў ў 1948 г. З духоўнае асьветы ён мае толькі кароткія місянэрскія курсы, (42), якія відавочна ні ў чым не зьмянілі ягона чорнасоценскага сьветагляду.

Падобна і пакойны міт. Панцялейман Ражноўскі, што так заўзята змагаўся супраць БАПЦ быў ваенным інжынерам і афацэрам царскае арміі. А гэткіх ерархаў і асабліва сьвятароў ў расейскай Царкве шмат; дык няма дзіву што гэта не астаецца бяз уплыву на царкоўныя справы.

### Праніканьне рускага духу

Для больш поўнага ўсьведамленьня, як глыбока пранікае празьмерны нацыяналізм ў праваслаўнае расейскае рэлігійнае жыцьцё, варта прыглянуцца да каталіцкага руху між расейцамі, якое ягонае сьведчаньне ў гэтай справе? Амаль кожная новая ініцыятыва каталіцкага руху паміж расейцамі мусіла ў першую чаргу выказаць сваю паставу адносна нацыяналізму. І гэта самазразумела, бо-ж становячыся ў абліччы «рускае веры» мусіла з ёю зачынаць гутарку, выказаць нацыянальнае credo.

Ня маючы магчымасьці пераглянуць самыя старыя расейскія каталіцкая выданьні, абмяжуемся да больш ведамых у Зах. Эўропе. Калі ў 1924 г. пачаў выходзіць у Ліёне часапіс «Вѣра и родина» дык у першых двох нумарох зьявіўся артыкул а. С. Тышкевіча аб хрысціянскай любові да бацькаўшчыны (43). У 1930 г. пачаў выходзіць у Парыжу часапіс «Благовесть» — і тут уступны артыкул першага нумару прысьвячае шмат мейсца даказваньню агульнаведамае і яснае як дзень праўды, але супярэчнае з расейскім эксклюзывізмам, што «прыналежнасьць да Каталіцкае Царквы можа быць зусім згодная з любоўю да свае бацькаўшчыны».

Спэцыяльнае мейсца ў каталіцкай прэсе, прызначанай для расейцаў, займае кніжка князя а. Волконскага, бо яна мае на мэце выясьніць сутнасьць расейскага каталіцкага руху, як аб гэтым кажа ў прадмове яп. Пятро Бучыс. І вось у гэтай кнізе цэлы другі разьдзел прысвечаны выясьненьню суадносін веры і нацыянальнасьці (44). Характэрна, што аўтар пачынае той разьдзел даказваньнем, што расеец стаўшыся католікам «ня зрадзіў расейскіх прынцыпаў», бо гэты закід быў усюды на вуснах расейскіх эмігрантаў, якія нават і ў думцы не дапушчалі магчымасьці разрозненьня двох розных паняцьцяў: нацыянальнасьці і рэлігіі. Варта зазначыць, што ў радох католікаў адзываліся галасы ня менш патрыятычныя, як і ў радох праваслаўных. Напрыклад якісь сьвятар пад псэўдонімам Віленскі пісаў: «Расейскі каталіцкі рух, ёсьць рухам перадусім расейскім і прытым высока патрыятычным» (45). У радох расейскіх каталіцкіх сьвятароў знайшлося нямала калішніх царскіх афіцэраў і высокіх дыплёматаў, якія каб паказаць сваім праваслаўным братом, што яны ня горшыя нацыяналісты за іх, дзейнічаюць у іхным духу нацыяналізму, але міма гэтага маюць ад іх шмат дакораў і лаянкі. Дык ня дзіва, што шмат больш сыплецца лаянкі пад адрасам беларусаў так католікоў, як і праваслаўных, якія ня хочуць мець нічога супольнага з «рускаю вераю».

---

41. Прот. М. Польскій. Каноническое положенiе высшей церковной власти въ СССР и заграницей. Троицкій монастырь 1948.

42. «Православная Русь» Нр. 11.(415) 1. VI. 1948. стар. 12.

43. Свящ. С. Тышкевичъ, Христіанская любовъ къ отечеству. «Вѣра и Родина». Лион 1924.

44. Свящ. кн. А. Волконскій, Католичество и священное преданіе Востока. Парижъ 1933, стар. 14-19.

45. Валерій Виленскій. Черты идеологіи русско-католического движенія. Ужгород 1928, стар. 24.

**Наш адказ**

У сваёй сутнасьці хрысціянства павінна ўносіць дух узаемнага зразуменьня і злагоджаньня суседзкіх непаразуменьняў, а ў расейцаў яно сталася прыладаю паняволеньня і вынарадаўлньня. Расейскія імпэрыялісты ў расах з сваею прапагандаю «рускае веры» пярэчаць самым асновам хрысціянства, прызначанага Богам для ўсіх народаў. У грунце рэчы найбольшымі прапагандыстамі «рускае веры» былі і ёсьць безрэлігійныя шавіністычна настроеныя людзі, у якіх мейсца рэлігіі заняў крайны нацыяналізм, дзеля гэтага супраць усіх іхных пасяганьняў прыкрытых вопраткаю «рускае веры» павінны выступаць супольным фронтам беларусы і каталікі і праваслаўныя, бо гэта ёсьць выступленьне супраць супольнага ворага і то тым горшага, што замаскаванага. І на ўсе пасяганьні гэтага супольнага ворага, прыкрытага вэлюмам праваслаўя, мы павінны сказаць з ўсею рашучасьцю: даволі надужываньня рэлігіі для драпежных **імпэрыялістычных мэтаў.**

## «ПОЛЬСКАЯ ВЕРА»
## Каталіцызм на Беларусі ў XIV-XVIII ст.

Каталіцызм лацінскага абраду пачаў пашырацца на Белаусі ўканцы XIV ст. Першымі лацінскімі сьвятарі ў нас былі палякі, але даволі хутка беларускіх сьвятароў ужо было больш чым палякаў і Каталіцкая Царква пачала прымаць беларускі характар. Літургічнаю мовою была лаціна, як і ўсюды ў Каталіцкай Царкве, але па-за тым на Беларусі і нават у Летуве духавенства карысталася тагачаснаю ўрадаваю беларускаю моваю, як аб гэтым сьведчыць справаздача сакратара вял. кн. Аляксандра і адначасна віленскага прапата Эразма Вітэлі ў Рыме дня 31. III. 1501 г., дзе гаворыцца, што летувісы: «Захоўваюць уласную мову. Аднак таму, што беларусы засяляюць сярэдзіну княства і іхняя гаворка ёсьць прыгажэйшаю і лягчэйшаю, дык усе яе ўжываюць агульна» (46).

Сёньня чамусьці мала хто ўспамінае, што ў XV ст. на Беларусі было нямала рэлігійнае каталіцкае літаратуры для вернікаў лацінскага абраду, у тагачаснай беларускай мове, да таго некаторыя творы былі напісаны царкоўна-славянскімі літарамі. Колькі такіх твораў ўспамінае В. Ластоўскі (47).

Першае біскупства лацінскага абраду для Беларусі было створана ў Вільні ў 1388 г. і першым біскупам быў паляк, але ўжо яго наступнікам быў беларус Якаў Пліхта. У далейшым на Віленскім пасадзе чаргаваліся палякі, беларусы і летувісы, але ад палавіны XV ст. выключна грамадзяне Вялікага Княства. Калі ў 1591 г. кароль Жыгімонт Ваза назначыў Віленскім біскупам паляка Бэрнарда Мацеёўскага, дык канцлер Леў Сапега катэгарычна адмовіўся паставіць пячатку Вял. Кн. на грамаце нованазначанага біскупа, бо паводля Літоўскага Статуту чужынцом забаранялася займаць урадавыя пасады ў Вялікім Княстве. Хоць Мацеёўскі быў адным з лепшых біскупаў і потым стаўся нават кардыналам, аднак мусіў ўпакарыцца перад канцлерам і пасьля сямігадовае валакіты ў 1598 кароль мусіў адклікаць яго назначэньне ў Вільню (48). Зрэштаю самыя палякі вуснамі Яна Шчэнснага-Губарта сьцьвярджалі, што ў XVI ст. «Русь веры рымскае была ня горшаю за Русь веры грэцкае».

Фатальную ролю ў палажэньні беларускае Каталіцкае Царквы адыграў пратэстантызм з сваімі шматлікімі сэктамі. Ён прыйшоў на Беларусь праз Польшчу і ў польскай форме. Гэта была другая палавіна XVI ст. — час упадку і Праваслаўнае і Каталіткае Цэркваў. Пратэстанты галоўным чынам кальвіністы хутка ахапілі большую частку беларускае шляхты і магнатаў (49), прышчэпліваючы ім аднача сна з новаю вераю сувязь з польскасьцю. Найбольшы ведамы на Беларусі прапагатар кальвінізму, Сымон Бодны, быў палякам з Мазоўша. Ён выдаў толькі пару твораў пабеларуску і потым перайшоў ў сваёй прапагандзе на польскую мову (50). Пратэстанцкае школьніцтва на Беларусі было выключна польскае. Агулам паляніза цыйную ролю пратэстантызму гісторыкі ведалі, але резглядалі пабежна, толькі нядаўна на аснове дакумантальнага матэрыялу шырэй асьвятліў гэтую дзейнасьць праф. С. Кот, даказваючы, што пратаэстантызм на нашых землях быў магутным дзейнікам палянізацыі (51).

На змаганьне з пратэстантызмам ў 1569 г. Віленскі біскуп паклікаў з Польшчы езуітаў. Яны спачатку вучыліся беларускае мовы, але карысталіся ёю мала калі, а звычайна, ідучы сьледам за пратэстантамі, ужывалі толькі польскае мовы.

---

46. Theiner August. Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum. Romae 1861. Tomus sec. star. 278.

47. Ластоўскі Вацлаў. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўня 1926. стар. 182; «Какъ ся мша чтеть римскимъ обычаемъ Ма(т)це Божіей»; «О оустани Кристусовѣ изъ мертвыхъ» і інш.

48. Przyałgowski W. Żywoty biskupów Wileńskich. St. Petersburg 1860.

49. Brückner. A. Dzieje kultury polskiej. Warszawa 1939. Tom II. star. 357. Кажа, што ў адной толькі Навааградчыне арыяне забралі каля 650 праваслаўных цэркваў. Іншы польскі гісторык Красінскі ў працы прысьвечанай Вільні кажа, што на 600 шляхецкіх родаў у Наваградчыне толькі 12 асталося праваспаўнымі, іншыя перайшлі ў пртэстанцкія сэкты.

50. Kot Stanisław. Budny Szymon. «Polski Slownik biograficzny». Kraków 1837. Tom III. star. 96-99. Там-жа падана бібліяграфія твораў С. Буднага.

51. Kot. St. La réformation dans le Grand-Duché de Lithuanie, facteur d'occidentilisation culturelle. («Annuaire de l'Institut de Philologie et d'histoire orientales et slaves»). Tome XII. «Pankoplia». Bruxelles 1953. star. 201-261.

Горш таго, нават Праваслаўная Царква ўканцы XVII ст. пачала выдаваць частку свае палемічнае літаратуры папольску.

Пратэстантызм за пару дзесяткаў гадоў быў зьнішчаны, а ягоныя прыхільнікі знайшліся пераважна ў лоне Каталіцкае Царквы лацінскага абраду, ўносячы туды моцную палянізацыйную плынь.

Вернікамі Каталіцкае Царквы лацінскага абраду былі пераважна шляхта, магнаты і толькі часткава мяшчане; ў Праваслаўнай Царкве асталіся сяляне і мяшчане — гэткім чынам рэлігійная розьніца спалучылася з нацыяльнаю розьніцаю, моцна разьмяжоўваючы іх і стаўляючы каталіцызм ва ўпрывіліяванае становішча ў якім знайходзілася шляхта, якая з гордасьцю заяўляла: **Bóg stworzył chłopa dla popa, a plebana dla pana.**

Рэлігійная Вунія хоць і выклікала шмат палемікі, але нацыянальнага разьмежаваньня ў рэлігійных адносінах не зьмяніла, бо і далей шляхта аставалася ў лацінскім абрадзе і ганырылася тым, што мае «плебана», а сялянства аставалася ў славянскім абрадзе каля сваіх «попаў», як з пагардаю палякі называлі каталіцкае духавенства славянскага абраду падобна як і праваслаўных духоўных.

**(Працяг будзе).**

# Наперад па абраным шляху

(Працяг 3-і да апавяданьня **«Няведамыя шляхі»**)

Аб адважным кроку ўдавы Зосі і аб будучыні Андрэйкі доўга не пераставалі гаварыць у Старабродах, але няма патрэбы пераказваць усяго таго, што малолі людзкія языкі, бо нават і сам Андрэйка ня ведаў усяго таго, што аб ім іншыя гаварылі. Вучыўся ён добра, а ў вольным часе памагаў маці ў гаспадарцы і так не агледзеўся, як мінула тры гады і кончыў сяміклясовую школу ў Замчышчах.

— Што рабіць далей?

Вось новае пытаньне, якое стала перад ягонаю маткаю, дзядзькам і самым Андрэйкам. Дагэтуль кошты навукі былі невялікія; усяго каштавалі кніжкі і крыху лепшая вопратка ды ўзімку пару месяцаў кватэру наймалі. Вучыцца-ж далей — трэба было мець грошы, каб аплаціць за навуку і аплаціць утрыманьне ў горадзе, а гэта ня жарты.

На шчасьце Сьцяпан быў з такіх людзей, што не пакідаюць справы на паўдарогі і да таго моцна любіў Андрэйку, як свайго роднага сына, бо сваіх дзяцей ня меў. Сьцяпанава заўзятасьць і цікавасьць даводзіла яго да перамогі там, дзе іншыя нават не адважваліся-б брацца за дзела.

Аднойчы гутарачы з замкавіцкімі мяшчанамі Сьцяпан даведаўся, што яшчэ ў Вільні, Наваградку і ў Клецку ёсьць беларускія гімназіі і пры іх ёсьць інтэрнаты. Вярнуўшыся дамоў, ён доўгі час хадзіў моцна задуманы, а ў суботу адстаяўшы ў царкве ўсю вячэрню, яшчэ доўга маліўся на адзіноце. У нядзелю рана Сьцяпан паволі йшоў да зосінае хаты. Зося ўвіхалася каля печы, а каля самых дзьвярэй на лаве Аленка шчыняла рыбу і каля яе круціўся Андрэйка, каб схапіць рыбі пухір і выстраліць, стукнуўшы спрытна ў яго абцасам. Калі ў сенях пачуўся тупат нечых цяжкіх крокаў, у хаце адразу стала ціха і ўсе ўтаропіліся ў дзьверы, у якіх паказалася лысая галава Сьцяпана. Ён прывітаўшыся глядзеў на рыбу і зьдзіўлена пытаўся:

— Хто-ж гэта ў вас рыбалоўствам займаўся?

— Дай рады, якое там рыбалоўства — адказала Зося — гэта-ж вунь учора Андрэйка напісаў ліст Палагеі да яе Толіка, што служыць у войску, дык яна сёньня прынесла гасьцінца. Казала, што ў затоне, каля Плянтаваньня так шмат увагналі рыбы ў трыгубіцу, што чуць яе не парвалі.

— А добрых язюкоў прынесла — мацаючы найбольшую рыбіну, гаварыў Сьцяпан.

— Дык, каб ты бачыў, які ён ёй ліст напісаў, мусіць лепшага і пісар не патрапіў-бы.

— Дык значыць гэта Андрэй рыбу пяром налавіў, гэта добрая штука. Але вось я маю яму большую задачу, як лісты пісаць.

— А што? — спыталі ў адзін голас маці і сын.

— У Замкавічах на кірмашы я стрэнуў чалавека з Карэліч у аднага мешчаніна і ён мне казаў, што ў Вільні, Наваградку і ў Клецку ёсьць беларускія гімназіі, там вучацца дзеці нават і такіх бедных, як мы. Казаў, што ягоны сусед паслаў туды летась свайго сына. Дык вось варта пайці да яго і распытацца лепш, як там і што з тымі гімназіямі і колькі там трэба плаціць.

Ужо Андрэйка пачаў рыхтавацца ў дарогу шукаць таго найбліжэйшага гімназіста, як Зося, бяручы ваду, даведалася ад суседкаў каля калодзезя, што заўтра Хімка Ступайка едзе ў акружны суд у Наваградак. Рада-у-раду і падарожжа Андрэйкі было адложана. Назаўтра досьвіта ён ужо ехаў разам з Хімкаю ў далёкую дарогу.

Хоць і невялікі горад Наваградак, але на жыхара ціхае і глухое вёскі, якою была Старабродзьдзе, ён дзейнічае анесьмяляюча сваім стукатам і гоманам. Але па хвіліне раздумы Андрэйка прамовіў у паўголаса: «Што-ж узяўся за гуж, не кажы, што ня дуж» і пайшоў шукаць гімназіі. Шукаў яе нядоўга, бо ўслужлівы жыд, у заезьдзе якога затрымалася Хімка, накіраваў яго так, што той за пару хвілін стаяў на рагу рынку каля до-

му, на якім быў бачны напіс «Беларуская Гімназія...»

Пастаяўшы круху на ходніку, Андрэйка нерашуча адчыніў дзьверы і пачаў ўздымацца па сходах на першы паверх у канцылярыю гімназіі. У канцылярыі яго сустрэў якісьці старэйшы чалавек, як потым даведаўся, гэта быў настаўнік геаграфіі. Ён ветліва прыняў Андрэйку, паглядзеў школьнае пасьведчаньне, распытаў крыху аб тым, што вучылі ў замкавіцкай школе і сказаў, што яго могуць прыняць у Гімназію ў пятую клясу бяз экзаміну, а калі хоча ўступіць у шостую клясу дык мусіш уканцы жніўня здаваць уступны экзамін, а напасьледак дадаў, што за навуку трэба будзе плаціць штомесячна і за інтэрнат таксама. Вышыня аплаты, хоць у сабе магчыма невялікая, але для маці і дзядзькі Андрэйкі яна была не пад сілу. І лагодныя словы настаўніка балюча ўрэзаліся ў сэрца Андрэйкі. Ён нічога ня кажучы забраў сваe паперы, разьвітаўся з настаўнікам і паволі выйшаў на карыдор.

— Не для цябе гэтая школа — чуць ня ў голас прашаптаў Андрэйка і пры тым нешта моцна сьціснула яго за горла, а сьлёзы градам пакаціліся з вачэй. Ён прытуліўся ў куток і стараўся ўсімі сіламі апанаваць сябе, але дарма.

— Божа мілы, няўжо мне загароджана далейшая дарога? — паўтараў ён у думцы, перамагаючы няпрошаны плач.

Тымчасам на сходах пачуліся чыесьці крокі і жаночыя галасы. Аб чым яны гаварылі, Андрэйка ня чуў; ён толькі стараўся знайсьці найбольш цёмны куток на карыдоры, каб яго ніхто не заўважыў. Але жанчыны на мамэнт спынілі гутарку і, пачуўшы ўсхліпы, даглянулі яго ў кутку і зараз-жа накіраваліся туды. Якаясь старэйшая кабета пыталася папольску, што яму сталася.

— Нічога ня сталася — адказаў мімаволі Андрэйка так-жа папольску — толькі вось я хацеў вучыцца ў гімназіі, але тут аплата такая, што мая маці нават і за адзін месяц ня здолее яе заплаціць.

— Чаму ты кажаш маці ня зможа заплаціць, а дзе-ж твой бацька?

— Бацька даўно памёр.

Старэйшая жанчына, гэта была жонка аднаго з большых наваградзкіх ураднаўцаў, якая вельмі старалася мець свой уплыў на Беларускую Гімназію, пачуўшы такі просты адказ новага кандыдата ў Гімназію, вельмі ажывілася і пачала супакойваць Андрэйку і штосьці гаварыць да сваe сяброўкі. Каля іх хутка зьявіўся дыжурны настаўнік з канцылярыі. Дакуманты Андрэйкі апынуліся ў руках няведамае гаваркое жанчыны. Яна іх перабегла толькі вачыма і заявіла самаўпэўненым тонам.

— О, калі будзеш такім выдатнікам тут, як быў у Замчышчах, дык за навуку нічога плаціць ня будзеш, гэта я ўжо табе магу гарантаваць вось пры сьведках — казала яна і нават патрапала па плячы Андрэйку.

Усе ўвайшлі ў канцылярыю і настаўнік даў Андрэйку аркуш паперы, каб неадкладна напісаў заяву. Фармальнасьці былі як бачыш палагоджаны. Падзякаваўшы ўсім, Андрэйка выйшаў на рынак. У заезд ісьці было яшчэ рана ды не хацеў, каб там бачылі яго заплаканыя вочы, дык накіраваўся ў першую бочную вуліцу. Там хутка ўбачыў аграмадную старую царкву і з радасьцю пасьпяшыў да яе дзьвярэй, аднак яны былі зачыненыя. З дакорам паглядзеў на яе магутныя дзьверы, абыйшоў навокал пагост і пайшоў далей.

Пахадзіўшы яшчэ крыху па вуліцах, Андрэйка вяртаўся ў свой заезд, ён цяпер сьпяшаўся, каб падзяліцца сваімі навінамі хоць з Хімкаю, ды каб хутчэй ехаць дамоў.

Удома маці і дзядзька чакалі Андрэйку з нецярпеньнем і яшчэ не пасьпеў ён адчыніць вуснаў, як абое яго спыталі:

— Ну і што даведаўся?

— Даведаўся шмат чаго добрага і нават запісаўся ўжо ў пятую клясу.

Пры гэтым Андрэйка расказаў аб сваіх расчараваньнях і неспадзеванай сутрчы з нейкаю вялікаю паняю, толькі аб сьлёзах прамаўчаў.

— Вось і дзякаваць Богу! — закончыў Сьцяпан апавяданьне Андрэйкі — а цяпер пакуль ехаць туды, дык старайся сабе яшчэ летам хлеба крыху падрабіць; заўтра пойдзем касіць у Падлесьсе, я для цябе знайшоў маленькую коску.

Падлесьсе Андрэйка вельмі любіў, бо там адным канцом сенакос ўпіраўся ў стары лес у якім расло шмат розных ягадаў. Але гэтым разам яму было не да ягадаў, бо мусіў пракос у пракос ісьці за дзядзькам і чакаў палудня, як збаўленьня, каб лёгчы адпачыць. Толькі маці і Аленка, якія прынесьлі абед і паразбівалі пракосы, пасьля абеду пайшлі ў лес і там знайшлі толькі суніцаў, што Аленка прыбегла забрала апарожненыя ў часе абеду збанкі і пакуль касары адпачывалі дык збанкі былі напоўнены, аднак маці не дала сыну паласавацца суніцамі з збанкоў.

— Пайдзі сам сабе назьбірай, а гэта заўтра Аленка занясе ў Замчышча, можа якіх пару залатовак вытаргуе.

Гарачая летная праца, у якую з галавою мусіў кінуцца Андрэйка, нароўні з усімі сваімі сябрамі, не дала нагоды шмат гаварыць аб новым ягоным кроку ўпярод, а крок быў зроблены вельмі паважны.

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## КАНАНІЗАЦЫЯ ПАПЫ ПІЯ X

Кожная кананізацыя ў Рыме азначаецца велічнымі ўрачыстасьцямі, але кананізацыя Пія X, якая адбылася сёлета 29 траўня вызначалася сваею вынятковаю велічнасьцю і сьцягнула ў Рым нязьлічаныя натаўпы вернікаў. Да гэтага шмат прычынілася асоба папы Пія X, бо за часоў ягонага понтыфікату 1903-1914 сталася шмат падзеяў, якія высока ўзьнялі павагу Каталіцкае Царквы ўва ўсім сьвеце. Не дарма яго называлі «папаю хрысціянскае навукі». Ён зрэарганізаваў навучаньне катэхізму, казаньняў, духоўных сэмінарыяў, прычыніўся да разьвіцьця вышэйшых біблійных студыяў, даў новы штуршок для літургічнага руху, ясна выказаў навуку аб прычасьці дзяцей, увёў паважныя кананічныя рэформы і агарадзіў Каталіцкую Царкву ад разбуральнага ўплыву мадэрнізму.

З нагоды абвешчаньня сьвятым папы Пія X царкоўныя гісторыкі зьвярнулі ўвагу, што на агульны лік 260 папаў кананізавана сьвятымі толькі 77, а з іх толькі трох пасьля 1100 году.

Нармальна ў Каталіцкай Царкве кананізацыя адбываецца ня хутчэй як 50 гадоў пасьля сьмерці данае асобы, але для сьв. Пія X зроблена выняткова, падобна як калісь для сьв. Тэрэсы ад Дзіцятка Ісуса і прысьпешана час кананізацыі дзеля агульнага прызнаньня сьвятасьці. Варта заценіць, што сьв. Пій X паходзіць з сялянскае сям'і.

## ЭНЦЫКЛІКА АБ СЬВЯТЫМ ДЗЯВОЦТВЕ

На сьвята Дабравешчаньня Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў новую Энцыкліку «Sacra Virginitas» у якой падаецца каталіцкая навука адносна дзявоцтва і сужэнства і асуджаюцца некаторыя тэорыі, што падкопвалі вартасьць дзявоцтва, а ўканцы падаюцца сродкі да захаваньня дасканалае чыстасьці.

## АСЬЦЯРОГА ПЕРАД АДНАБОКІМ МАТЭРЫЯЛЬНЫМ ПРАГРЭСАМ

Ужо ня раз Сьвяцейшы Айцец Пій XII зьвяртаў увагу вернікаў на неабходнасьць усебаковага разьвіцьця духовых, інтэлектуальных і матэрыяльных сілаў. Апошнім часам ён з асабліваю яснасьцю зьвярнуў увагу на небясьпеку аднабокага матэрыяльнага прагрэсу ў сваім звароце да швайцарскіх вернікаў. Сьвяцейшы Айцец сьцьвердзіў, што людзкі дабрабыт сёньня паважна загрожаны новаю руінаю. Адзіная магчымасьць, каб унікнуць гэтае страшэннае руіны ёсьць зраўнаважаньне матэрыяльнага прагрэсу адпаведна высокім разьвіцьцём рэлігійных і маральных сілаў.

## МАРАЛЬНАЯ АЦЭНКА ФІЛЬМАЎ

Сёлета 21 чэрвеня адбыўся ў Кэльне Міжнародны Дзень Каталіцкага Кіно. Да ўдзельнікаў Дня папа Пій XII выслаў ліст, у якім зьвярнуў асаблівую ўвагу на належную маральную ацэнку фільмаў і пры гэтай нагодзе адначасна зьвярнуўся да вернікаў — глядзельнікаў фільмаў, каб ідучы ў кіно, шукалі перадусім вышэйшых вартасьцяў і не даваліся зводзіць атрутаю нечысьці, якою стараюцца прынадзіць глядзельнікаў неадказныя дзейнікі.

## СУСЬВЕТНЫ ДЗЕНЬ МАЛІТВЫ ДЗЯЦЕЙ ЗА МІР

З пачыну міжнароднае арганізацыі «Pax Christi» сёлета дня 23 траўня адбываліся па ўсім вольным сьвеце малітвы каталіцкіх дзяцей за мір у сьвеце. Малітвы суправаджаліся адпаведнымі літургічнымі ўрачыстасьцямі і зборкамі.

## ПАЛОМНІЦВА СТУДЭНТАЎ У ШАРТР

Ужо ўвайшло ў моцную традыцыю, што студэнты вышэйшых парыскіх навуковых установаў адбываюць на Сёмуху супольнае паломніцтва да сьвятыні Маці Божае ў Шартр, каб вымаліць Божае благаславенства для завяршэньня свае навучальнае працы — экзаменаў. Сёлета час паломніцтва крыху прысьпешана і яно адбылося 9-10 траўня. Затое лік студэнтаў паломнікаў узрос аж да 12.560. Сапраўды гэта пацяшаючы знак часу, бо ў 1935 г. іх было толькі 15.

## ПРАБЛЕМА КІНО

Папская камісія ў справе кіно пераглядаючы ў мінулым месяцы кінопрадукцыю ў сьвеце за мінулы год, мусіла з жалем сьцьвердзіць, што ў многіх краінах дырэктары кінопрадукцыі не зьвяртаюць увагі на маральны ўзровень фільмаў. Камісія выказала жаданьне, каб супраць такога стану рэчаў уздымала голас грамадзкая апінія, дамагаючыся культурных фільмаў, адказваючых хрысціянскаму сьветагляду.

Для ілюстрацыі маральнага стану кінофільмаў за мінулы год могуць сьведчыць даныя французскае Цэнтралі Каталіцкага Кіно. У Францыі ў 1953 г. высьвятлялася агулам 387 фільмаў, з іх 114 французскае прадукцыі. З гэтага агульнага ліку толькі 12 былі добрыя для ўсіх (з іх 5 франц.); 102 — для ўсіх з засьцярогаю для дзяцей (17 франц.); 132 — толькі для дарослых (25 франц.); 93 — для дарослых з засьцярогаю (35 франц.); 32 — ня раіцца аглядаць (19 франц.); 13 — з хрысьціяскае дысцыпліны паўстрымацца ад агляданьня (усе франц.).

## СУПРАЦЬ КОНКУРСАЎ ПРЫГАЖОСЬЦІ

Ужо ня раз зьвярталася ўвагу ў каталіцкай прэсе на дэмаралізуючы ўплыў, пашыранага апошнімі гадамі, «конкурсу прыгажосьці». Дня 20-1 г. г. ватыканская газэта «Осэрваторэ Романо» прысьвяціла гэтаму пытаньню асобны артыкул, разьбіраючы падрабязна, да чаго вядуць тыя конкурсы, на якіх зьвяртаецца ўвагу толькі на цела, ня дбаючы зусім аб людзкой годнасьці і аб душы. Да гэтага варта зьвярнуць увагу на адзін факт, аб якім найчасьцей у прэсе цяжка знайсьці весткі. Доля «каралеваў красы» ў большасьці выпадкаў вельмі непахвальная і дзеля гэтага нават тыя, якія іх услаўлялі падчас выбараў, на наступны год шукаюць новых «каралеваў», сарамязьліва прамоўчваючы аб долі раней выбраных. Прыгажосьць ёсьць асаблівым дарам Божым для чалавека і грэх, калі яго пакіжаецца.

## ЯШЧЭ ІСНУЕ РАБСТВА

Нядаўна ў Парыжу паўстала Супрацьрабскае Таварыства — падзея сама ў сабе вельмі вымоўная і набрала нямала разгалосу, калі быў апублікаваны ліст некаторых каталіцкіх біскупаў з Афрыкі, заадрасаваны да гэтага Таварыства, дзе зьвярталася ўвагу на неабходнасьць мабілізаваньня грамадзкае апініі супраць ганьбы дваццатага веку, што яшчэ сёньня ў Афрыцы існуе рабства ў розных яўных і прыхаваных формах, ня гледзячы на афіцыяльную забарону рабства. Аб гэтым адказныя дзейнікі стараюцца нічога ня ведаць. Зусім акрыта гандлююць рабамі ў дзяржаве Емэн (Арабія), але і туды рабоў прывозяць найбольш з Афрыкі.

## ТВОРЫ СЬВ. ТАМАША ПАЯПОНСКУ

Японскі прафэсар з гор. Осака, які нядаўна стаўся каталікам, распачаў перакладаць на японскую мову найбольшы твор сьв. Тамаша з Аквіну, «Багаслоўская Сума».

## ПЕРШАЯ ШКОЛА ДЛЯ ПІГМЭЯЎ

Афрыканскія пігмэі адносяцца да белых людзей з вялікім недаверам і стараюцца ня мець з імі ніякага кантакту. Толькі каталіцкім місіянаром удалося перемагчы той недавер і нядаўна заснаваць у Бэльгійскім Конго першую каталіцкую школу для пігмэяў. Вядуць школу манашкі Малыя сёстры Ісуса. Наведвае яе тымчасам 50 вучняў.

## МІЖНАРОДНЫ ЦЭНТР РАМАНСКІХ СТУДЫЯЎ.

Дасьледнікі раманскага будаўнічага стылю нядаўна заснавалі ў невялікім францускім горадзе Турнюс (сярэдняя Францыя) Міжнародны цэнтр студыяў. Важнасьць новага Цэнтру палягае на тым, што раманскі стыль быў першым будаўнічым стылем ва ўсеэўрапэйскім абсягу і спалучаў у сабе будаўнічыя асаблівасьці Усходу і Захаду. Сакратарыят гэтае новае міжнароднае арганізацыі месьціцца ў Парыжу.

## РЭЛІГІЙНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ У БРАЗІЛІІ.

Найбольшая дзяржава ў Паўд. Амэрыцы Бразілія заселена рэдка. Займаючы абшар мала меншы за Эўропу, яна мае ўсяго 49 мільёнаў жыхарства. У сярэднім выпадае ў Бразіліі толькі 6 чалавек на кв. кілямэтр. Большая частка насельніцтва належыць да Каталіцкае Царквы, але самая Царква мае павжныя цяжкасьці ў рзьвіцьці. Найбольш даймаюча адчуваецца нястача сьвятарства — там у сярэднім ёсьць толькі адзін сьвятар на 6.500 вернікаў. Нямала ёсьць такіх мястэчак, ужо ня кажучы аб вёсках, дзе няма ні сьвятыні ні сьвятара. Такое палажэньне ад некаторага часу выкрыстоўвае пратэстанцкая прапаганда, якая фінансуецца з-за граніцы. Каб хоць часткава перамагчы ўсе цяжкасьці і запоўніць нястачы рэлігійнага жыцьця апошнім часам распачата будову аўтакараў-капліцаў, якія аб'язджаюць найбольш загрожаныя мяйсцовасьці. Звычайна такую капліцу суправаджае сьвятар, аграном, санітар і сацыяльны апякун. На мейсцах затрымкі кожны з іх у сваім фаху абслугоўвае насельніцтва..

## КАНГРЭС ФРАНЦУСКІХ МАНАШКАЎ

Манашкі ўсіх чынаў і згуртаваньняў, якія ёсьць у Францыі мелі сёлета ў Парыжу між 5 і 7 чэрвеня свой першы агульны Кангрэс. Ён распачаўся ўрачыстаю Службаю Божаю, якую адправіў Я. Э. Дюбуа ў базыліцы Маці Божае Парыскае ў прысутнасьці кардыналаў: Яго Эм. Валеріо Валеры — прэфэкта Манашае Кангрэгацыі, Яго Эм. Саліежа і Яго Эм. Фэльтэна і ў прысутнасьці больш 3.000 дэлегатак. Урачыстае адкрыцьцё Кангрэсу адбылося папалудні 5.VI у царкве Сан Сюльпіс. Галоўная мэта гэтага нязвычайнага Кангрэсу палягае на скаардынаваньні працы і заданьняў паасобных кангрэгацыяў, бо ізаляцыя некаторых згуртаваньняў і кангрэгацыяў часам губіць іхнія вялікія апостальскія высілкі. Ужо ад цяпер устаноўлена: Аб'еднаньне шпітальных і дабрадзейных кангрэгацыяў, якое разам налічвае 89.500 манашак, што працуюць у шпіталях, санаторыях, дамох для вар'ятаў, прытулках для старых, сірацінцах, дзіцячых яслях і ў грамадзкай апецы; Аб'яднаньне манашак настаўніцаў, якое налічвае 80.000 манашкаў, што працуюць у 7,300 школах з 835.000 вучнямі; Аб'яднаньне манашак узгадавальніцаў, якія абслугоўваюць больш 6.000 парахвіяў і займаюцца навучаньнем катэхізму, рэлігійнымі арганізацыямі моладзі і летнімі калёніямі.

Няма сумніву, што наладзіўшы больш суладна ахвярную працу, можна будзе ад яе спадзявацца больш плодных вынікаў.

## ПРАСЬЛЕДАВАНЬНЕ РЭЛІГІІ Ў СССР

Нядаўна 8. VI камсамольская газэта «Молодой коммунист» апублікавала вострыя супрацьрэлігійны артыкул і адначасна «Крокодил» зьмясьціў напад на «веруючых комсомольцаў». З гэтае нагоды заходняэўрапэйская прэса быццам успомніла, што ў СССР няма свабоды рэлігіі. Але падаўшы кароценькую зацемку аб атаку камуністычнае газэты, уся рэакцыя на гэтым і скончылася. Сумна і прыкра, што вольны сьвет прывыкае да факту прасьледаваньня рэлігіі, як да чагосьці зусім нармальнага. Гэта тымбольш сумна, што амаль адначасна стаўся факт, які выявіў, да якое ступені даведзена супрацьрэлігійны тэрор у СССР. 18 чэрвеня вярнуўся з СССР адзін францускі сьвятар а. Мікалай, які правёў 9 гадоў у савецкім палоне. І вось гэты сьвятар ні слова не сказаў для прэсы аб сваіх перажываньнях, каб сваім сьведчаньнем не пашкодзіць іншым каталіцкім сьвятаром, якія яшчэ да гэтага часу мучацца ў савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лягэрах. Ці ён паможа ім сваім маўчаньнем, аб гэтым можна паважна сумнявацца, але што пашкодзіць каталіцызму, пашыраючы дэфэтызм, дык аб гэтым няма сумніву. Вось-жа бальшавікі знайходзяць спосаб ня толькі страшэнна мучыць вернікаў, але так-жа спосаб зацішыць полас прэсы і грамадзкае думкі вольнага сьвету аб прасьледаваньнях.

## КАТАЛІКІ-КАМУНІСТЫ МУСЯЦЬ ВЫСТУПІЦЬ З ЦАРКВЫ

Ва Усх. Нямеччыне, каталікі, якія займаюць адказныя становішчы ў камуністычнай партыі атрымалі вусны загад ад сваіх верхаводаў з Ц.К. каб выступілі з Каталіцкае Царквы.

## БЯЖБОЖНАЯ ПРАПАГАНДА

Усесаюзнае таварыства па пашырэньню палітычных і навуковых ведаў у СССР адбыло 2-7 красавіка ў Маскве свой Другі Зьезд. На ім вострa крытыкавалася дзейнасьць Таварыства. Між іншым у справаздачы аб Зьезьдзе кажацца: «Зьезд азначыў, што ў лекцыях, а так-жа ў мэтадычных матэрыялах і брашурах, якія былі выданы Таварыствам, мелі мейсца паважныя ідэалягіяныя памылкі». А на іншым мейсцы кажацца больш выразна аб характары тых памылак: «Мала прыдаецца ўвагі крытыцы антыпаўлоўскага ідэалістычнага кірунку ў фізіялёгіі. Зусім недапушчальнаю зьяўляецца недаацэнка і запушчанасьць у цэлым радзе арганазацыяў Таварыства прапаганды навучна-атэістычных ведаў». Відаць, што гэтая прапаганда на толькі штучная, што яе трэба ўсьцяж бізуном падганяць.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА



**Вёска Купа над Нарачччу перад 1939 г.**

## НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

### Другі Кангрэс ФІТКРЭ

Маладая сындыкальная арганізацыя Міжнародная Фэдэрацыя Хрысціянскіх Сындыкатаў Работнікаў Уцекачоў і Эмігрантаў (паводля ініцыялаў францускага назову: FITCRE), якая аб'ядноўвае 26.000 работнікаў, мела сёлета ў Штрасбургу між 30. IV. і 2. V. свой другі Кангрэс. На Кангрэсе ўдзельнічалі: баўгары, беларусы, латышы, летувісы, мадзяры, палякі, румыны, славакі, сэрбы, украінцы, чэхі і эстонцы, а так-жа шматлікія госьці французы, бэльгійцы, саарцы і інш. Самое мейсца Кангрэсу — Штрасбург — аседак некалькі паважных міжнародных арганізацыяў, у якіх да гэтага часу ігнаруюць Беларусь і Украіну, кажа сам за сябе аб яго далёкасяжнасьці. Маючы на ўвеце значэньне Штрасбургу, усе дэлегацыі выказалі ўсяму сьвету, што яны дбаючы аб сваіх прафэсіянальных інтарэсах, адначасна з найбольшым зацікаўленьнем сочаць за плянамі ўплывовых дзейнікаў адносна будучае долі сваіх народаў, паняволеных сёньня камуністамі і не пашкадуюць ніякіх высілкаў для вызваленьня сваіх бацькаўшчынаў.

Працы Кангрэсу прайходзілі ў дзейнай атмасфэры і мелі шырокае водгульле на старонках прэсы народаў удзельнікаў, а так-жа ў францускіх і бэльгійскіх газэтах. Уканцы выбрана новае бюро ФІТКРЕ. Ад беларускага сындыкату увайшоў ў склад новага бюра як сябра ўправы В. Міцкевіч. З нагоды Кангрэсу кожная дэлегацыя перадала праз радыё «Вольная Эўропа» трохмінутны зварот у роднай мове да свайго народу. Ад імя беларусаў прамаўляў а. Л. Гарошка. На Кангрэсе

былі прынятыя шматлікія пастановы датычна палажэньня работнікаў-эмігрантаў і выданы Маніфіст да работнікаў за зялезнаю заслонаю і да работнікаў вольнага сьвету.

### Бюлетэнь Каарданацыйнага Цэнтру

Ад 1948 г. у Лёндане існуе Цэнтральны Кардынацыйны Камітэт Арганізацыяў Самапомачы Уцекачоў у В. Брытаніі. Да яго належаць 12 розных нацыянальных арганізацыяў: баўгарская, беларуская, латыская, летувіская, мадзярская. польская, румынская, славацкая, укранская, чэская, югаслаўская і эстонская. Сёлета ад траўня месяца Камітэт пачаў выдаваць свой «Бюлетэнь» у ангельскай мове. У першым нумары «Бюлетэню» ёсьць артыкул а. Ч. Сіповіча аб Згуртаваньні Беларусаў у Вялікай Брытаніі.

### Клюб цэнтральна-усходняэўрапэйскіх студыяў

У адрозьненьне ад розных фэдэральных клюбаў, якія закладаліся адною групаю суседняга нам народу і якія заўсёды грашылі недагаворам у найвежнейшых пытаньнях, сёлета 23 траўня адбыўся ў Лёндане агульны сход прадстаўнікоў: беларусаў, летувісаў, мадзяраў, палякаў, славакаў, украінцаў, харватаў і чэхаў з мэтаю залажэньня Цэнтральна-Усходняэўрапэйскага Клюбу Студыяў. Клюб ня мае палітычнага характару, але імкнецца праз супольныя студыі і дыскусіі падрыхтаваць салідны фундамант для супольнага міжнароднага пляну ў сувязі з супольным змаганьнем за вызваленьне і нацыянальную незалежнасьць паняволеных бальшавізмам народаў, а так-жа падрыхтаваць будучае міжнароднае супрацоўніцтва, апіраючыся на справядлівасьць і хрысціянскую этыку. Пасьля жывое дыскусіі быў папраўлены праект статуту і прыняты ды выбрана галоўная ўправа клюбу ў такім складзе: старшыня — др. К. Лёхэр (чэх), заст. старшыні — па аднаму ад кожнае нацыі, сакратар — інж. Сьцібор-Рыльскі (паляк), скарбнік — др. В. Рамук (беларус).

### З дзейнасьці БАКА «Рунь»

У Лёндане за мінулае паўгодзьдзе адбылося некалькі міжнародных зборкаў сяброў «Пакс Романа» з удзелам БАКА «Рунь». Дня 7. 12. 1953 г. адбылося спатканьне, у якім удзельнічалі ангельцы, беларусы і палякі. На гэтай зборцы пастаноўлена, каб акадэмічныя арганізацыі сябры «Пакс Романа» стараліся супрацоўнічаць між сабою. Канкрэтным вынікам гэтае пастановы была міжнародная канфэрэнцыя, наладжаная сёлета ангельскаю арганізацыяю ім. Ньюмана ў днях 6 і 7 сакавіка. На канфэрэнцыі а. Л. Орсі прачытаў даклад аб «Царкве ў маўчаньні», канонік С. Ф. Бальф — «Уцекачы ў Вялікай Брытаніі», а. Ч. Сіповіч — «Беларусы ў Вялікай Брытаніі», сп. М. А. Оглюк «Украінцы ў Вялікай Брытаніі». Акрамя таго былі кароткія даклады аб мадзярах, палякаx, харватах і чэхах. На заканчэньне канфэрэнцыі адбыўся вечар песьні і музыкі. Маленькая група руняўцаў адсьпявала «Люблю наш край», песьню на чужыне «Ой рэчанька», «Саўка і Грышка». Беларускія песьні зрабілі добрае ўражэньне на ўсіх прысутных і Ньюманская Асоцыяцыя запрасіла да сябе беларусаў на 12 красавіка Тады група руняўцаў адсьпявала некалькі літургічных песень і а. Ч. Сіповіч меў даклад аб музыцы і сьпеве ва ўсходнеславянскай Літургіі.

20 траўня адбылася супольная зборка ў аседку БАКА «Рунь» — у доме Айцоў Марыянаў. Раніцаю а. Ч. Сіповіч адслужыў сьв. Літургію і сказаў казаньне аб хрысціянскім паняцьці супакою. Наступна, пасьля кароткага перапынку і перакускі др. В. Рамук прачытаў даклад аб «Паўстаньні і дзейнасьці «Руні», а затым Язэп Пазьняк прачытаў дакумантальна апрацаваны даклад «Школьная сыстэма ў Савецкай Беларусі», выклікаючы вялікую і цікавую дыскусію.

### З песьняю ў камбатантаў

Міжнароднае Задзіночаньне Камбатантаў з Цэнт. і Усх. Эўропы, якое існуе ў Парыжу ад 1952 г. і аб'ядноўвае: азэрбайджанцаў, баўгараў, беларусаў, грузінаў, казакаў, летувісаў, мадзяраў, палякаў, паўночных каўказцаў, румынаў, славакаў і украінцаў — ладзіла сёлета 11-га чэрвеня ў Парыжу артыстычны вечар сіламі ўдзельнікаў Задзіночаньня. Вялікая саля «Cercle Militaire» была перапоўнена. Праграма выступаў была вялікая і даволі розная, ды сваім добрым выкананьнем выклікала ў прысутных зацікаўленьне ня толькі да выкананых нумароў, але і да самых народаў, якіх прадстаўнікі выступалі на сцэне. Ад беларусаў выступала група студэнтаў з Лювэну пад кіраўніцтвам К. Кіслага, выклікаючы ў прысутных агульнае прызнаньне.

### БССР у міжнародных арганізацыях

Агульна ведама, што Савецкі Саюз належыць толькі да тых міжнародных арганізацыяў, дзе можа весьці сваю прапаганду, або сваю дэструктыўную работу. І ў адным і ў другім выпадку патрэбная адпаведная колькасьць галасоў. З гэтаю мэтаю бальшавікі выкарыстоўваюць імя Беларусі і Украіны і іхныя агульна ведамыя вызвольныя змаганьні. Яны увялі дэлегацыі гэтых савецкіх рэспублікаў у 1945 г. у Аб'еднаныя Нацыі, а сёлета ў траўні Савецкі Саюз увайшоў у УНЭСКО і Міжнародную Арганізацыю працы, уводзячы туды 12 траўня так-жа прадстаўнікоў ад БССР і УССР. На добры лад беларусы мусілі-б цешыцца, што імя Беларусі чуваць штораз шырэй на міжнародных трыбунах, нажаль у даным выпадку дэлегацыя БССР ня прыносіць славы беларускаму народу, бо і самая-ж дэлегацыя ня выслана наро-

дам, але маскоўскімі верхаводамі ад імя сваіх савецкіх марыянэтак, і толькі дзеля бальшавіцкіх інтарэсаў.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

### Рэлігійнасьць беларускае моладзі

Камсамольская газэта БССР «Чырвоная зьмена» з 16 траўня ў артыкуле «Павуцінне» накінулася на беларускую моладзь за яе рэлігійнасьць. З лаянкаю, на якую здольны толькі камуністы, абураецца пісака з «Чырвонае зьмены» на беларускіх камсамольцаў за тое, што яны «трапляюць у павуціньне царкоўнікаў і сэктантаў». Камсамольцы Гомельскага шклозаводу пастаянна наведваюць маліто́ўныя дамы сэктантаў і цэрквы, ды садзейнічаюць распаўсюджваньню розных «сьвятых пісьмаў». У некаторых вёсках Гомельшчыны ў часе храмавых сьвятаў спыняюцца ў калгасах нават самыя неадкладныя работы.

Пералічыўшы цэлы сьцяг такіх фактаў, «Чырвоная зьмена» заклікае ўправы камсамолу да чытаньня антырэлігійных лекцыяў, каб «ачысьціць сьвядомасьць людзей ад перажыткаў капіталізму, ад рэлігійных забабонаў». Дзівосныя гэтыя заклікі, бо-ж сучасныя камсамольцы прыйшлі на сьвет ў «соцыялістычным раю», дык дзе-ж яны набраліся тых «капіталістычных перажыткаў»?

### Вылюдненьне Беларусі ня спынаецца

Камуністычная прэса БССР, хвалячыся рознымі «асягненьнямі» ня хочучы падае штодзенна доказы жудаснага вынішчэньня і вылюдненьня беларускага народу. Найбольш яскрава аб гэтым сьведчыць штогоднае зьменшаньне ліку вучняў у школах, на што ўжо ня раз зьвярталася ўвагу ў нашым часапісе. Сёлета нядаўна апублікована ў «Советской Белоруссии» лік вучняў у 1954 г. Варта супаставіць гэты лік з данымі папярэдніх гадоў, каб пабачыць, аб чым ён сьведчыць:

| | | |
|---|---|---|
| 1948 г. | — 1.500.000 | вучняў |
| 1949 г. | — 1.489.000 | „ |
| 1951 г. | — 1.466.000 | „ |
| 1952 г. | — 1.426.000 | „ |
| 1953 г. | — 1.375.000 | „ |
| 1954 г. | — 1.286.000 | „ |

Як бачым, зьменшаньне вучняў ідзе ў жудасным тэмпе і гэта міма таго, што на мейсца выселеных беларусаў прыслаюцца ў БССР расейцы і іншыя народы.

Статыстыка аб ліку школаў у агульным не паказвае вялікіх зьменаў, але ў сапраўднасьці і яна сьведчыць аб страшэнным вылюдненьні Беларусі, бо напрыклад ёсьць звыш 500 школаў у якіх лік вучняў не перавышае 10 чалавек.

### Бязупынныя пераарганізацыі і зьмены ў адміністрацыі

Пакольки савецкі адміністрацыйны апарат не спраўляецца з сваім заданьнем, могуць сьведчыць бязупынныя зьмены колькасьці і якасьці розных міністэрстваў. На пачатку мінулага году ў БССР было аж 26 міністэрстваў. За паўгоду іх было асталося толькі 18, а сёлета пачалі нанава тварыць і ператасоўваць розныя міністэрствы і ўжо 4-га чэрвеня Вярхоўны Савет БССР зацьвердзіў 23 міністэрствы, дзелячы іх на дзьве катэгорыі: рэспубліканска-саюзная (17) і рэспубліканскія (6).

Чытаючы паведамленьне аб гэтых адміністратыўных ператасоўках мімаволі прыгадваецца байка Крылова, як малпа, асёл, казёл і «косолапый мишка затеяли сыграть квартет» і пры кожнай сваёй наўдачы усьцяж пераменьвалі мейсцы. Уканцы Крылоў казаў музыкантам: «как вы братцы не садитесь, в музыканты не годитесь». Тое-ж мусілі-б сказаць сабе і сучасныя камуністычныя верхаводы — яны здольныя трымаць у сваіх руках толькі рэвальвэр і бізун.

### І беларусы «сьвяткуюць»

300-годзьдзе прыеднаньне Украіны да Расеі сёлета ўва ўсім Савецкім Саюзе азначаецца з вялічэзным розгаласам. З гэтае нагоды ладзяцца нязьлічаныя ўрачыстасьці. У рамах такіх ўрачыстасьцяў 17. V. адбылася спэцыяльная сэсія Акадэміі Навук БССР у Менску з удзелам делегатаў ад расейскае, украінскае і летувіскае Акадэміяў. У праграме розных дакладаў зьвяртае на сябе ўвагу даклад Л. С. Абэцэдарскага: «Барацьба беларускага народу за ўзьеднаньне з Расеяй». Гэта праграмны даклад, які «даказвае», што ў Маскве ніколі ніякіх гвалтаў ня роблена адносна Беларусі, а гэта беларусы самі напрошваліся ў няволю, ну і добрыя маскоўскія цары зрабілі ласку, прынялі ў «свае бацькаўскія абыймы бедных беларусаў» і так моцна сьціснулі ў абыймах, што ня толькі сьлёзы, але і кроў пацякла. Дык цяпер самазразумела беларусы разам з украінцамі мусяць бесканца дзякаваць сваім «дабрадзеям». І ў гэтым духу чытаюцца даклады ўва ўсіх большых цэнтрах.

### Узаконьненьне русыфікацыі

Савет Міністраў БССР і Міністэрства асьветы БССР выдалі сёлела ў красавіку загад «Аб скарочаньні колькасьці экзаменаў у школах Беларускай ССР» (Звязда 29 красавіка Нр. 101). Новы закон між іншым адносна беларускае мовы кажа: «На атэстат сталасьці вучні будуць здаваць замест адзінаццаці восем экзаменаў: па беларускай літаратуры (вусна), рускай мове і літаратуры (пісьмова), рускай літаратуры (вусна), геамэтрыі... і г. д.». Значыць зусім скасавана экзамін з

беларускае мовы, пакідаючы толькі вусны экзамін з літаратуры. А ў партыйнай школе пры ЦК Ком. Прат. БССР зусім няма нічога ані з беларускае мовы, ані з беларускае гісторыі.

## АНГЛІЯ

### Агульны Зьезд ЗБВБ

Згуртаваньне Беларусаў у В. Брытаніі сёлета 1 і 2 траўня мела свой восьмы Агульны Зьезд у Лёндане. Уступаючая Ўправа выказалася паважнымі асягненьнямі за мінулы год: зарганізована Беларуска-Ангельскае Таварыства, прыеднана шмат новых сяброў, наладжана некалькі паважных імпрэзаў. Пасьля дыскусіяў над справаздачамі і абсолютарыяй для ўступаючае ўправы выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — П. Навара, заст. старшыні — др. В. Рамук, сакратар — Я. Пазьняк, сябры ўправы — а. др. Ч. Сіповіч і П. Дварэцкі.

### У адзьдзелах ЗБВБ

Пасьля Агульнага Зьезду ЗБВБ у Лёндане адбыліся гадавыя зборкі ўва ўсіх пяці адзьдзелах ЗБВБ са справаздачамі з дзейнасьці і перавыбарамі ўправаў. У адзьдзеле Кембрыдж з нагоды гадавое зборкі др. В. Рамук прачытаў даклад на тэму: Беларуская эміграцяя ўчора і сёньня». Манчэстэрскі адзьдзел купляе Беларускі Дом — гэта ўжо будзе трэці Беларускі Дом у В. Брытаніі.

## АРГЭНТЫНА

### Агульны Сход ЗБА

Кожны год добра праведзенае арганізацыйнае працы ёсьць новым крокам упярод у арганізацыйным жыцьці. Такім крокам быў мінулы год для Згуртаваньня Беларусаў у Аргэнтыне, як гэта выявілася на агульным Зьзьдзе, што адбыўся 30 чэрвеня ў Буэнос Айрэс. Уступаючая ўправа ЗБА атрымала абсалютарыю з падзякаю за выканаую працу і ў склад новае ўправы на старшыню паўторна выбрана Ул. Другаўца, а сябрамі ўправы: А. Літвінскага, М. Ланкевіча, Л. Петраша і А. Карловіча.

## АЎСТРАЛІЯ

### Гадавы Сход АБА

Аб'еднаньне Беларусаў у Аўстраліі сёлета 25 красавіка мела свой гадавы сход у Сыднэі і аднлчасна гэтага-ж дня азначала 36-ыя ўгодкі абвешчаньне незалежнасьці Беларусі. Сёлетні гадавы Сход выявіў, што арганізацыйнае беларускае жыцьцё ў Сыднэі значна аслабла. Усё сьвяткаваньне Сакавіковага Акту абмежавалася рэфэратам А. Качана. Ані багаслужэньня, ані нават малітвы ня было. Справаздача ўступаючае ўправы АБА выказала, што яе дзейнасьць была невялікая. Да гэтага прычынілася пасыўнасьць усіх сяброў. Выбары ў новую ўправу мелі не абы якую цяжкасьць, бо ўласьцівыя выбары прышлося замяніць вышукваньнем людзей добрае волі. Старшынёю АБА згадзіўся быць К. Сіткоўскі.

## ГІШПАНІЯ

### Гішпанская прэса аб Беларусі

З нагоды сёлетняга Марыйскага Году ў гішпанскай прэсе часта зьяўляюцца весткі аб культе Найсьвяцейшае Дзевы Марыі ў розных народаў, а між імі так-жа і беларусаў. Тыднёвік «Signo» Нр. 722 з 3. IV. у артыкуле «Любоў да Марыі ў Царкве маўчаньня» падае зацемку аб Жыровіцкай Маці Божай з рэпрадукцыяю яе іконы. Тыднёвік «Ecclesia» Нр. 688 зьмясьціў на франтовай воклады рэпрадукцыю Вастрабрамскае Маці Божае з кароткаю зацемкаю на адвароце. Месячнік «Bolletin de dirigentes» Нр. 27 з траўня г. г. апублікаваў вялікі артыкул: «Марыйскі культ на Беларусі» з рэпрадукцыяй Жыровіцкае. Смаленскае і Вастрабрамскае іконаў Маці Божае. Месячнік «Volad» Нр. 96 мае прыгожы артыкул сп-чні Блянка Альварэз «Марыя — жывы прыклад на Беларусі» з рэпрадукцыяй Жыровіцкае і Вастрабрамскае іконаў Маці Божае. Аўтары названых часопісаў чэрпалі свае інфармацыі ад беларускіх студэнтаў з Мадрыду, за што ім належыцца агульнае прызнаньне.

### Гішпанскае радыё аб Марыйскім кульце на Беларусі

Гішпанскае радыё аддае сёлета належную даніну Найсьвяцейшай Дзеве Марыі, уключаючы ў сваю праграму шматлікія рэлігійныя перадачы і прысьвячаючы нямала ўвагі Марыйскаму культу ў іншых народаў. Дня 24 красавіка яно перадавала даклад прадстаўніка БАКА «Рунь» у Гішпаніі на тэму: «Марыйскі культ на Беларусі». Даклад трываў 20 мінут і суправаджаўся рэлігійнымі песьнямі «Дастойна есьць» і «Магутны Божа» з дыскаў, насьпяваных Беларускім Студэнцкім Хорам у Лювэне. Кораткa, але зьмястоўна ў дакладзе выказаны істотныя рысы пашаны беларусаў да свае Нябеснае Валадаркі, гісторыю найбольш папулярных цудатворных іконаў і аб мейсцы Марыі ў нардпай творчасьці.

### Лекцыя аб Беларусі

На філязафічным факультэце Мадрыдзкага унівэрсытэту прафэсар катэдры гісторыі Мануэль Фэррандіс у рамах сваіх выкладаў ладзіць гутаркі студэнтаў аб сваіх правінцыях — калі гэта студэнты гішпанцы, і аб сваіх краінах — калі гэта студэнты чужынцы.

Дня 11-га траўня ў праграме тых выкладаў прачытаў рэфэрат аб Беларусі студэнт гісторыі В. Сенкевіч. Зрабіўшы агульны геаграфічны, этнографічны і дэмографічны агляд, ён затрымаўся даўжэй на важнейшых пэрыядах гісторыі Беларусі

✝

Ад няшчаснага выпадку дня 23-га чэрвеня гэтага году загінуў у Ligny-en-Barrois (Meuse)

**ЯНКА ЛАЗУТА**

у веку 38 гадоў. Пахаваньне адбылося 26 чэрвеня на мяйсцовым магільніку.

Беларуская калёнія ў Францыі страціла ў асобе пакойнага актыўнага сябру, які горача любіў сваю Бацькаўшчыну Беларусь і не шкадаваў для яе ніякіх ахвяраў.

Хай будзе яму лёгкай чужая зямелька!

і беларускага адраджэнскага руху. Укàнцы падаў асноўную характарыстыку беларускае літаратуры, выяўленчага мастацтва, музыкі і архітэктуры. Рэфэрат суправаджаўся беларускімі песьнямі з дыскаў і выклікаў вялікае зацікаўленьне ў слухачоў, аб чым найлепш сьведчыла поўная саля. Праф. Фэрранді залічыў рэфэрат аб Беларусі да найлепшых, якія да гэтага часу адбыліся.

### За Эўхарыстычным Хрыстом у працэсіі

У нядзелю 27. VI. з парахвіі Буэн Сучэсо ў Мадрыдзе выйшла вечарам вялікая працэсія з Эўхарыстычным Хрыстом, у якой удзельнічалі сьцягі ўсіх краінаў гішпанскае Амэрыкі, а гэтак сама і краінаў паняволеных сёньня камуністамі, у тым ліку і Беларусі. Сьцягі несла студэнцкая моладзь. З вышэйшых гішпанскіх асабістасьцяў у працэсіі ўдзельнічалі: міністар авіяцыі ў асысьце трох гэнэралаў, цывільны і ваенны губэрнатары, гэнэральны дырэктар царкоўных справаў і інш. Грала аркестра авіяцыі. Да гэтага ўсяго шматтысячная грамада вернікаў надавала працэсіі вельмі грандыёзны характар і трывала 3 гадзіны.

## З.Ш.А.

### Новы часапіс

Стараньнем Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью Ёрку пачаў выдавацца літаратырна-мастацкі часапіс «Конадні». Пэрыядычнасьць часапісу не зазначана.

## ІТАЛІЯ

### Служба Божая за пресьледаваную Царкву на Беларусі

У праграме Марыйскага Году ў Рыме адбываюцца супольныя малітвы за «Царкву ў мучаньні». У рамах гэтае праграмы 6-га траўня ў Боргэзіянскай капліцы Лібэртынскае базылікі а. др. П. Татарыновіч адправіў сьв. Імшу за Беларусь. Багаслужэньне суправаджалася сьпевам дзяцей.

Беларуская калёнія ў Рыме вельмі маленькая, але падчас багаслужэньня Баргэзіянская капліца была поўная — гэта да малітваў беларусаў прышлі далучыць свае малітвы прадстаўнікі 18 народаў так суседніх, як і вельмі далёкіх. На багаслужэньнях за іншыя паняволеныя народы ўдзельнічаюць і беларускія прадстаўнікі.

## ФРАНЦЫЯ

### Гадавая сходка філіі АБРФ ў Ля Крэзо

У надзелю 20. VI. адбылася гадавая Сходка Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі ў філіі Ля Крэзо. Пасьля справаздачы ўступаючае управы і дыскусіі над яе дзейнасьцю выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — Ю. Гасьцееў, сакратар — М. Булыга, скарбнік — Ф. Рашкевіч.

---

### ТЫДЗЕНЬ СТУДЫЯЎ Б.А.К.А. «РУНЬ»

Управа Беларускага Акадэмічнага Каталіцкага Аб'яднаньня «Рунь» падае да ведама ўсіх сваіх сяброў і прыхільнікаў што сёлетні чацьвёрты з чаргі Тыдзень Студыяў адбудзецца ў Рыме між 24-га ~~верасьня~~ кастрычніка і 1-га ~~кастрычніка~~ лістапада і будзе прысьвечаны Марыйскай тэме. Усе, хто жадае ўдальнічаць на ім, хай загадзя пастараецца палагодзіць фармальнасьці з візаю, якія сёлета ня будуць мець ніякіх цяжкасьцяў у зьвязку з Марыйскім Годам і частымі прошчамі ў Рым.

Па дакладнейшыя інфармацыі зьвяртацца на адрас: B.A.K.A. «Run» Marian House, Holden Avenue, LONDON, N. 12.

**Управа Б.А.К.А. «Рунь»**

---

### ЗАКЛІК

Беларуская Каталіцкая Місія ў Англіі, якая ад 1947 г. вядзе душпастырскую, харытатыўную і культурна-грамадзкую працу сярод беларусаў у В. Брытаніі, дагэтуль ня мае собскага прыпынку. Таму з дазволу і багаславенства царкоўных уладаў прыступіла ў гэтым 1954 годзе — асабліва пасьвячаным Найсьвяцейшай Дзеве Марыі, — да зборкі грошай на куплю дому, у якім яна сяньня знайходзіцца, а які сваім імем мае славіць Марыю: Marian House.

На закуп Марыйскага Дому патрэбна восем тысяч англельскіх фунтаў. Гэтым зьвяртаемся з гарачаю просьбаю дапамогі да суродзічаў беларусаў і да ўсіх тых, хто разумее патрэбу беларускага жыцьця на чужыне.

Кожнага году ў дзень Унебаўзяцьця Н. Дз. Марыі, 15 жніўня, у Марыйскім Доме будзе адпраўляцца Служба Божая за ўсіх дабрадзеяў.

У Францыі грошы можна слаць на адрас рэдакцыі часапісу, у іншых краінах на адрасы тых, што маюць падпісныя лісты для зборкі ахвяраў.

**а. Ч. Сіповіч**
**Рэктар Місіі**

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## НАВОШТА РАЗРЫЎКІ?

Стары пекараз кажа, што сьвяты апостал Іван, будучы на выгнаньні ў Эфэзе, меў асвоенага гругана з якім часам забаўляўся для разгарненьня. Аднойчы прыйшоў здалёк да апостала якісьці чужынец, азброены лукам і якраз увайшоў у хату апостола, калі ён цешыўся сваім груганом, муштруючы яго пераскакваць з пляча на руку і з рукі на плячо. Чужынец быў моцна зьдзіўлены, што такі вялікі апостал ды займаецца такою гульнёю і ня ўстрымаўся, каб ня выказаць свайго зьдзіўленьня самому апосталу. На гэта апостал адказаў:

— Чаму ты ня трымаеш усьцяж напятым свой лук?

— Бо лук страціць сваю сілу, калі ўвесь час будзе напяты — акдазаў чужынец.

— Дык тое-ж дзеецца і з людзьмі, калі яны маюць шмат працы і турботаў. Каб ня ўпасьці пад іх цяжарам, неабходна час-ад-часу мець якіясьці разрыўкі.

## «Я ТАМ ТАК-ЖА УДЗЕЛЬНІЧАЛА!»

Калі ў 1888 г. пад радасны настрой усяе Нямеччыны была закончана будова славутае катэдры ў Кэльне і ладзілася яе ўрачыстае пасьвячэньне, дык насупраць катэдры ў бедным падстрэшным пакоі ўмірала нікому няведамая дзяўчына. Яна ад даўжэйшага часу захварэла на нявылячальную хваробу і праз увесь доўгі час свайго павольнага ўміраньня ўглядалася праз вакно свайго пакою на будовы катэдры. Пры гэтым у яе руках паволі перасоўваліся пацяркі чотак. Хворая малілася, каб падчас будовы катэдры ня здарыўся ніякі няшчасны выпадак. І сапраўды, праз увесь час будовы ня здарылася ніводнага цяжкага выпадку. Калі распачалася ўрачыстасьць пасьвячаньня, дзяўчына дажывала апошнія хвіліны свайго жыцьця. З ложка сьмерці, яна глянула на крыжаквектку катэдральнае вежы, апошнімі сіламі ўзьняла мярцьвеча белаю рукою сваю чотку ў кірунку катэдры і прамовіла да свае маткі: «Мама, я там так-жа ўдзельнічала!» З гэтымі словамі, яна аддала душу Богу.

**Паводля а. А. Коха**

## ПА ВОПРАТЦЫ СПАТЫКАЮЦЬ

Дачка аднаго высокага судовага ўрадоўца, дрыжучы ад абурэньня, увайшла да сябе ў пакой, паўтараючы: «Што за нізасьць, што за бессаромнасьць!» На запытаньне бацькі, у чым справа, яна расказала, што на вуліцы да яе прыставаў якісьці спадар у бессаромны спосаб і калі яна з абурэньнем адганяла яго, дык ён сказаў: «Чаго вы абураецеся, калі вы не адна з вулічных дзевак, дык чаму-ж так апранаецеся як яны?» Бацька глянуў на вопратку дачкі і, зморшчыўшы чало, сказаў: «Калі ты ў гэтай сукенцы паказалася на вуліцу, дык ня дзіва, што цябе нехта прыняў за вулічную дзеўку».

## УБАЧЫЎ — ПАСТАНАВІЎ

Ведамы дзеяч руху абстынэнтаў (тых, што ня п'юць нічога ап'яняючага) у Англіі Фрыдрых Н. Чарынгтон быў сынам фабрыканта вялікае лёндандскае піваварні. Аднаго дня, ідучы праз усходняе прадмесьце Лёндану, ён ўбачыў бедную жанчыну, у якое за вопратку трымалася кволая дзяўчынка, а на руках было груднòе дзіця, як яна, адчыніўшы дзьверы аднае піўнушкі, прасіла свайго мужыка, што там быў заўсёгдатаем, каб даў ёй грошай купіць хоць хлеба для галодных дзяцей. Замест адказу, п'яніца пачаў біць жанчыну і, выкінуўшы яе на ходнік, сам вярнуўся назад у піўнушку, каб «запіць няпрыемны выпадак». Калі Чарынгтон прыглянуўся да дзьвярэй піўнушкі, убачыў на іх імя свайго бацькі, напісанае пазалочанымі літарамі. Піўнушка была адным з шматлікіх дамоў ягонага бацькі. Пабоі беднае жанчыны, пад узьдзеяньнем ахмаляючага напітку, што фабрыкаваў ягоны бацька, закранулі моцна сумленьне Фрыдрыха Чарынгтона. Адказнасьць за злочын гэткае фабрыкацыі ён прыняў на сваё сумленьне і вярнуўшыся дамоў, заявіў свайму бацьку, што ня хоча мець ніякае лучнасьці з вытварам ап'яняючых напіткаў. Праз гэты крок, ён сябе пазбавіў спадку 1.250.000 фунт. штэр., але затое больш ніколі ня меў дакораў сумленьня.

## ШЧЫРАСЬЦЬ — ШЧОДРАСЬЦЬ

Кардынал Аляксандар Форнэзэ быў агульна ведамы з свае шчодрасьці і міласэрнасьці. Аднойчы зьвярнулася да яго бедная жанчына, просячы 5 скудаў (старая італьянская манэта), для сваіх найбольш пільных выдаткаў. Кардынал казаў жанчыне прыйсьці на наступны дзень і атрымаць грошы ў скарбніка. Калі жанчына зьявілася ў скарбніка, дык ён перадаў ёй 50 скудаў.

— Гэта памылка — казала жанчына — я прасіла толькі пяць скудаў.

— Няма ніякае памылкі — апраўдваўся скарбнік — кардынал выразна напісаў на квітку 50 скудаў.

Жанчына ўзяла квіток і, прынёсшы яго, да кардынала, казала:

— Эмінэнцыя, вы абмыліліся на адзін нуль!

— Так, вы кажаце праўду — казаў сьмяючыся кардынал, трымаючы ў руках квіток — я памыліўся на адзін нуль.

Пры гэтых словах кардынал даставіў яшчэ адзін нуль і бедная, але праўдамоўная жанчына атрымала 500 скудаў.

# ЗЬМЕСТ